У паход за высокую якасць фінансавай работы



# БЮЛЕТЭНЬ № 1

## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

Зборнік дырэктыў, пастаноў,
і матэрыялаў па фінпаходу,
конкурсу-соцспаборніцтву
за лепшую якасць фінработы



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК 1934 г.

# Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

## аб уключэнні БССР у паход за высокую якасць фінансавай работы

1. Уключыцца усім арганізацыям БССР у аб'яўлены Днепрапятроўскім абкомам КП(б)У і аблвыканкомам паход за выскоую якасць фінансавай работы і на лепшае выкананне плана мабілізацыі сродкаў і плана дзярждаходаў у 1934 г.

2. Апрача пастаўленых Днепрапятроўскім абкомам КП(б)У і аблвыканкомам умоў паходу, узяць на сябе наступныя дадатковыя абавязацельствы:

а) уцягненне ў папарнае соцспаборніцтва па фінплану ўсіх раённых і сельскіх партыйных, комсамольскіх і профсаюзных арганізацый, райгазет і сельсоветаў;

б) поўнае выкананне плана, скарачэнне адміністрацыйных расходаў па ўсіх арганізацыях БССР;

в) правесці соцспаборніцтва на лепшую пастаноўку работы райфа, райашчадкас, раённых і сельскіх камсодаў, сельсоветаў і фінансавых секцый советаў;

г) рашучае палепшанне работы ашчадкас па абслугоўванню пазыкатрымацеляў і ўкладчыкаў.

3. Выклікаць на лепшае правядзенне паходу і прынятых абавязацельстваў па соцспаборніцтву Заходнюю вобласць.

4. Ускласці кіраўніцтва пахода на совецка-гандлёвы аддзел ЦК КП(б)Б (т. Кудзелька), Наркамфін БССР (тав. Хацкевіч і ЦСПСБ т. (Квальчук).

Сакратар ЦК КП(б)Б ГІКАЛО.

---

*11 мая 1934 г.*

# ПАСТАНОВА

## Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР

## аб правядзенні ў 1934 г. конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце

На падставе пастановы ЦВК СССР ад 10 мая 1934 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР у дадатак да сваёй пастановы ад 22 красавіка г.г. „Аб правядзенні ў 1934 г. конкурса-спаборніцтва советаў БССР“ пастанаўляе:

1. Правесці ў 1934 г. з мая па верасень месяцы конкурс—спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце і яго фінансавую секцыю па пытаннях:

а) на лепшую арганізацыю і выкананне сельскага бюджэта;

б) на лепшае выкананне фінансавага плана;

в) укараненне строгай рэволюцыйнай законнасці і бюджэтнай дысцыпліны;

г) на лепшую работу сельсоветаў па поўнаму і своечасоваму ўчоту аб'ектаў абкладання с.-г. налогам;

д) на поўнае выкананне заданняў па кожнаму плацяжу;

е) на поўную рэалізацыю пазыкі сярод усіх катэгорый насельніцтва, а таксама на поўнае паступленне сум па пазыцы;

ж) на выяўленне ўсіх кулацкіх гаспадарак і на недапушчэнне індывідуальнага абкладання сапраўды серадняцкіх гаспадарак;

з) на поўнае прадастаўленне льгот па сельскіх плацяжах, на добрую пастаноўку ўчоту і фінансавай адчотнасці;

і) па арганізацыі культурнай ашчадкасы.

2. Увесці ў састаў Цэнтральнай конкурснай камісіі пры Прэзідыуме ЦВК БССР народнага камісара фінансаў БССР Хацкевіча з заменай яго намеснікам тав. Еліневскім.

3. Для прэміравання лепшых сельсоветаў БССР, а таксама для прэміравання асобных фінансавых секцый работнікаў советаў і ўдарнікаў фінансавага фронта, утварыць рэспубліканскі прэміяльны фонд у суме 10.000 (дзесяць тысяч) руб.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта БССР А. ЧАРВЯКОЎ.

Сакратар Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта БССР М. ЛЕЎКОЎ.

---

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР

### аб уключэнні рэвізійных камісій сельскіх советаў ва Ўсесаюзны конкурс на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце і на лепшую па рабоце фінансавую секцыю сельскага совета.

Цэнтральны выканаўчы камітэт Саюза ССР пастанаўляе:

1. Уключыць рэвізійныя камісіі сельскіх советаў ва Ўсесаюзны конкурс-спаборніцтва на лепшы па фінансавай рабоце сельскі совет і на лепшую па рабоце фінансавую секцыю сельского совета, аб'яўлены пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР ад 17 мая 1934 года.

2. Прапанаваць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік правесці конкурс-спаборніцтва рэвізійных камісій сельскіх советаў па наступных паказчыках:

а) умацаванне састава рэвізійных камісій;

б) абавязковая штомесячная праверка касы і пакварталная рэвізія ўсёй фінансавай дзейнасці сельскага совета;

в) рэгулярная адчотнасць перад насельніцтвам аб ітогах рэвізіі фінансавай дзейнасці сельскага совета і аб выкананні сельскага бюджэта.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта Саюза ССР М. КАЛІНІН.

В. а. сакратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта Саюза ССР А. МЯДЗВЕДЗЕЎ.

Масква, Крэмль
7 чэрвеня 1934 г.

---

# ПАСТАНОВА
## Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР

3 *чэрвеня* 1934 *г.* *г. Менск.*

### Аб уключэнні рэвізійных камісій сельскіх советаў ва Ўсесаюзны і Ўсебеларускі конкурс на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце і на лепшую па рабоце фінансавую секцыю сельсовета

Прэзідыум Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР, у адпаведнасці з пастановай Прэзідыума ЦВК Саюза ССР ад 7-га чэрвеня 1934 г. пастанаўляе:

1. Уключыць рэвізійныя камісіі сельсоветаў ва Ўсесаюзны конкурс-спаборніцтва на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце і на лепшую па рабоце фінансавую секцыю совета.

2. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам правесці конкурсы-спаборніцтвы рэвізійных камісій сельсоветаў з наступнымі паказчыкамі:

а) умацаванне састава рэвізійных камісій.

б) абавязковая штомесячная праверка касы і пакварта льная рэвізія ўсёй фінансавай дзейнасці сельсовета;

в) рэгулярная адчотнасць перад насельніцтвам аб рэзультатах рэвізіі фінансавай дзейнасці сельскага совета і аб выкананні сельскага бюджэта.

3. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам уключыць гэты конкурс у план сваёй работы.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта БССР А. ЧАРВЯКОЎ.

В. а. сакратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта БССР ЖУКОВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА № 86
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР і ЦП Саюза ФБР

*г. Менск.* 26 *мая* 1934 *г.*

### Аб практычных мерапрыемствах па правядзенню конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінрабоце

Праводзімы конкурс-спаборніцтва на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце, на падставе пастановы ЦВК БССР ад 11 мая 1934 г., з'яўляецца фактарам вялікага палітычна-гаспадарчага значэння і абавязвае ўсю фінансавую сістэму і грамадскасць па-большэвіцку арганізаваць на месцах правядзенне гэтага конкурса, зрабіўшы ўпор на асноўныя галіны фінансавай работы ў сельсоветах, мабілізуючы вакол іх фінансавыя секцыі, рэвізійныя камісіі, камсоды, кантрольныя страхавыя пасты і ўдарнікаў фінансавага фронта, усю грамадскасць і гэтым самым забяспечыць выкананне рашэнняў XVП з'езда ВКП(б) аб перабудове і падвышэнні якасці фінансавай работы, забяспечыць паспяховае выкананне фінплана і ўсіх важнейшых фінансавых задач 2-й большэвіцкай пяцігодкі.

Выходзячы з гэтага, Народны камісарыят фінансаў БССР і ЦП саюза ФБР пастанаўляюць:

1. Прапанаваць усім загадчыкам гаррайфа, ГМК і РМК ФБР абгаварыць пытанні і выпрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па правядзенню конкурса-спаборніцтва сельсоветаў, унесці на вырашэнне Прэзідыума горсовета і райвыканкома і забяспечыць актыўны ўдзел шляхам камандыравання сваіх упаўнаважаных ва ўсе сельскія советы, на падставе чаго дабіцца:

а) чоткай работы фінансавых секцый советаў, рэвізійных камсій, камсодаў і гэтым самым забяспечыць палепшанне якасці фінансавай работы і сістэматычнае выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва;

б) да 10-га чэрвеня б. г. забяспечыць поўнае спагнанне нядоімкі па культзбору;

в) поўнае паступленне ўзносаў па падпісцы сярод рабочых і служачых штомесячна, забеспячэнне поўнага ахвату пазыкай усіх уноў паступаючых на работу рабочых і служачых, паступленне у маі м-цы 25 проц. усёй сумы падпіскі на пазыку сярод калгаснікаў і паступленне узносаў па самаабавязацельствах на пазыку сярод працоўных аднаасобнікаў;

г) поўнае выяўленне ўсіх аб'ектаў абкладання, своечасовае і правільнае налічэнне налога;

д) своечасовая праверка і афармленне актаў па ліквідацыі страт і выплата ўсіх страт па страхоўцы;

е) забеспячэнне нармальнага падэкаднага выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва, стварэнне працаздольнага фінансавага актыва, фінансавай секцыі, дэпутацкіх груп і забяспечыць выкананне плана II квартала да 25-га чэрвеня і III квартала да 20 верасня г. г.

2. Улічваючы, што конкурсам павінны быць ахвачаны ўсе без выключэння як горсаветы, так і сельсоветы ў параўнальна карот-

кія тэрміны завяршэння яго (май—верасень м-цы), для ўстанаўлення лепшых з лепшых сельсоветаў па выкананню умоў конкурса спаборніцтва і падагульнення папярэдніх ітогаў умоў правесці тры тура:

**1-шы тур** закончыць 15-га чэрвеня з тым, каб падвесці ітогі поўнага ўключэння ўсіх сельскіх советаў у правадзімы конкурс-спаборніцтва, поўнага спагнання нядоімкі культжылзбору, паступлення ўзносаў па падпісцы на пазыку сярод рабочых і служачых, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, выканання плана па фізічных укладах у ашчадкасы;

**2-гі тур** закончыць 5 ліпеня, дзе падагуліць ітогі выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва II квартала, выявіць лепшыя фінсекцыі і дэпутацкія групы асобных ударнікаў фінфронта, падагуліць ітогі правядзення с-г налога, страхоўкі і самаабкладання;

**3-ці тур** закончыць 15 верасня, дзе падвесці ітогі выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва III квартала, паступленне грошай па пазыцы, выявіць лепшыя сельскія советы па фінансавай рабоце, фінансавыя секцыі, камісіі садзейнічання дзяржкрэдыта і ашчадсправе, асобных ударнікаў фінансавага фронта і прадставіць іх для прэміравання праз Наркамфін у ЦВК БССР.

Матэрыял папярэдніх ітогаў умоў конкурса горрайфа прадстаўляюць Наркамфіну БССР па 1-му туру—20 чэрвеня, 2-му туру—10 ліпеня і 3-му туру—20 верасня 1934 г.

3. Для падагульнення канчатковых ітогаў конкурса-спаборніцтва і ўручэння прэмій лепшым сельскім советам па фінансавай рабоце, лічыць неабходным склікаць рэспубліканскі злёт старшынь сельсоветаў і фінансавых секцый лепшых па фінансавай рабоце і ўдарнікаў фінансавага фронта 25-га верасня 1934 г.

4. Важнейшай задачай фінансавых аддзелаў, ГМК і РМК павінна быць звернута на ўцягненне ў конкурса-спаборніцтва сельсоветаў, профсаюзных (саюз РДУ), комсамольскіх і іншых грамадскіх арганізацый; для гэтага неабходна паставіць пытанне і дабіцца дапамогі ад раённых партыйных арганізацый і палітаддзелаў МТС і соўгасаў.

5. Для забеспячэння разгортвання работы па конкурсу спаборніцтву, камандыраваць адказных работнікаў цэнтральнага фінансавага апарата з 27-га мая па 8 чэрвеня для разгортвання конкурса ў наступныя раёны: Дрысенскі, Талачынскі, Веткаўскі, Уваравіцкі, Клічаўскі, Суражскі, Чырвонапольскі і Расонскі.

Тав. Нісневічу разам з начальнікамі кіраўніцтваў забяспечыць ад'езд людзей у раёны 27-V.

6. Лічыць неабходным на працягу чэрвеня месяца заслухаць даклады 10 загадчыкаў райфа і старшынь РМК Саюза ФБР па разгортванню конкурса-спаборніцтва ў раёне на лепшы сельскі совет па фінрабоце.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

Старшыня ЦП Саюза ФБР ЗАХАРАВА.

---

# ПАСТАНОВА
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР і ЦП Саюза ФБР

*г. Менск* — 9 *чэрвеня* 1934 *г.*

### Аб парадку правядзення паходу за высокую якасць фінансавай работы, лепшае выкананне плана мабілізацыі сродкаў, плана дзярждаходаў у 1934 г. і права рапарта т. МОЛАТАВУ

У ажыццяўленне дырэктыўнай пастановы ад 3-VI—34 года аб уключэнні ўсіх арганізацый БССР у аб'яўлены Днепрапятроўскім абкомам КП(б)У і аблвыканкомам паход за высокую якасць фінансавай работы, у мэтах максімальнага развароту вакол фінансавага плана соцыялістычнага спаборніцтва, масавай работы і забеспячэння высокаякаснага выканання ўсіх заданняў па фінансаваму плану 1934 г., арганізацыі конкурса на права подпісі рапарта т. МОЛАТАВУ аб выкананні ўзятых абавязацельстваў, Народны камісарыят фінансаў БССР і ЦП Саюза ФБР пастанаўляюць:

1. Устанавіць, што права подпісі рапарта т. Молатаву будзе прадастаўлена:

| | |
|---|---|
| а) раёнам . . . . . . . | 15 |
| б) сельсоветам . . . . . . . | 300 |
| в) ашчадкасам . . . . . . . | 70 |
| г) камісіям садзейнічання дзяржкрэдыта і ашчадсправе пры прадпрыемствах . . . . | 220 |
| д) камісіям садзейнічання ашчадсправе і дзяржкрэдыту пры калгасах . . . . . | 500 |
| е) інспектарам па дзярждаходах . . . . | 4 |
| ж) інспектарам Дзяржстраха . . . . | 3 |
| з) старшыням ГМК і РМК ФБР . . . . | 15 |

2. Устанавіць умовы для пераможцаў у конкурсе:

#### Па пазыцы:

а) Дзейнасцю усіх арганізацый поўнае пагашэнне наяўнымі грашыма падпіскі на пазыку калгаснікамі і выданых самаабавязацельстваў аднаасобнікамі;

б) забеспячэнне штомесячных чарговых узносаў;

в) чоткая работа ашчадкас і камсодаў па абслугоўванню пазыкатрымацеляў штоквартальнай масавай праверкай выйгрышаў, ахват пазыкай уноў паступаючых рабочых і служачых і правядзенне калектыўнага страхавання.

#### Па мабілізацыі сродкаў:

а) Забеспячэнне фінорганамі нармальнага падэкаднага выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва;

б) стварэнне шырокага працаздольнага грамадскага фінактыва, фінсекцый і дэпутацкіх груп;

в) поўнае выяўленне аб'ектаў абкладання, своечасовае правільнае налічэнне налогаў;

г) барацьба з парушэннем рэволюцыйнай законнасці, своечасовае, правільнае выращэнне скарг, поўнае прадстаўленне льгот працоўным;

д) лепшая арганізацыя масава-раз'яснялънай работы сярод працоўных па забеспячэнню выканання планаў мабілізацыі сродкаў, папулярызацыя налогавага законадаўства.

**Па ашчаднай справе:**

а) Шырокае ўцягненне працоўных і калгаснікаў актыўнымі ўкладчыкамі ў ашчадныя касы, штомесячнае выкананне плана прыліву фізічных укладаў;

б) рашучае палепшанне работы ашчадкас па абслугоўванню пазыкатрымацеляў і ўкладчыкаў і прывядзенне ў культурны выгляд памяшкання ашчадкас;

в) рэнтабельнасць кас, адсутнічанне страт і злоўжыванняў, сістэматычная праверка кліенцкага партфеля.

**Па дзяржстраху:**

а) Своечасовая праверка, афармленне актаў і выплата па ліквідацыі страт;

б) сістэматычная праверка і інструктаж сельскіх страхавых камісій і сігнальных пастоў пры калгасах;

в) шырокі ахват рабочых, служачых і калгаснікаў калектыўным страхаваннем жыцця.

**Па дзяржДаходах:**

а) Своечасовая і высокаякасная праверка адчотаў і балансаў прадпрыемстваў на месяц з тым, каб да 1 студзеня 1935 г. не было ні аднаго не праверанага налогавага адчоту за 1933 г. і першыя тры кварталы 1934 г.

б) штодзённае пералічэнне налогаў, недапушчэнне скарыстання сродкаў бюджэтаў на папаўненне абаротных сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый, поўная ліквідацыя запазычанасці;

в) устанаўленне цвёрдай дысцыпліны сярод плацельшчыкаў дзяржДаходаў як у прадстаўленні налогавых адчотаў і балансаў, так і ў уплаце налогаў;

г) узорная пастаноўка акладнога рахункаводства;

д) актыўны ўдзел прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый у рабоце па дзяржДаходах. Арганізацыя кантрольных пастоў ва ўсіх рашаючых прадпрыемствах, філіялах Дзяржбанка; шырокі ўдзел грамадскіх інспектароў у праверцы адчотаў прадпрыемстваў.

**Па сельскіх бюджэтах:**

а) Поўнае выкананне ўсіх даходаў (забеспячэнне пакавартальна і года ў цэлым, без якіх-бы то ні было недабораў);

б) пераважнае расходванне сродкаў на сацыяльна-культурныя мерапрыемствы ў адносінах да адміністрацыйных;

в) строгае выкананне фінансава-бюджэтнай дысцыпліны, поўнае выкананне плана скарачэння адміністрацыйных расходаў;

г) штомесячнае правядзенне рэвізій грашовых спраў і штоквартальнае заслухоўванне на пленуме сельскіх советаў паведамленняў аб ходзе выканання сельскіх бюджэтаў;

д) акуратнае вядзенне кніг даходаў і расходаў сельскага бюджэта;

е) прыцягненне шырокіх мас працоўных—членаў сельсовета, дэпутацкіх груп у барацьбу за поўнае выкананне ўсіх мясцовых даходаў і выяўленне новых крыніц даходу;

ж) непасрэдны ўдзел фінсекцый у састаўленні і выкананні сельскіх бюджэтаў і сістэматычнай праверцы бюджэтных устаноў.

**Поўнае выкананне плана, скарачэнне адміністрацыйных расходаў па ўсіх арганізацыях БССР**

Па соцспаборніцтву:

а) Уцягненне ў папарнае соцспаборніцтва па фінплану ўсіх раённых і сельскіх партыйных, комсамольскіх і профсаюзных арганізацый, райгазет і сельсоветаў;

б) разгортванне соцспаборніцтва на лепшую пастаноўку працы райфа, райашчадкас, раённых і сельскіх камсодаў, сельсоветаў і фінансавых секцый советаў.

3. Для ўстанаўлення лепшых з лепшых на права падпіскі і паездкі з рапартам да т. Молатава і атрымання прэміі правесці чатыры тура для падагульвання папярэдніх ітогаў умоў конкурса

**1-шы тур**—скончыць к 15-му чэрвеня з тым, каб падвесці ітогі рэалізацыі, афармлення і замацавання падпіскі па пазыцы 2-й пяцігодкі (выпуск 2-га года).

**2-гі тур**—закончыць к 5-му ліпеня, падвесці ітогі выканання плана мабілізацыі сродкаў за II квартал, выявіць лепшыя фінсекцыі і дэпутацкія групы.

**3-ці тур**—закончыць к 25 верасня, падагуліць ітогі выканання плана мабілізацыі сродкаў III квартала, выявіць лепшых інспектароў па дзярждаходах і дзяржстраху.

**4-ты тур**—скончыць к 20-му студзеня 1935 г., падвесці ітогі выканання гадавога плана мабілізацыі сродкаў. Канчаткова зацвердзіць раёны, сельсоветы, ашчадкасы, камсоды, інспектароў па дзяржстраху і дзярждаходах, маючых права на подпісі і паездку з рапартам да т. Молатава.

4. Склікаць на 10-е чэрвеня ў г. Менску спецыяльную нараду старшынь ГМК і РМК саюза па пытанню разгортвання работы на месцах па конкурсу за права рапарта т. Молатаву.

5. Пытанне аб парадку прэміравання і аб выдзяленні прэміравальнага фонда ўнесці на зацверджанне СНК БССР і апублікаваць у друку.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ

Старшыня ЦП Саюза ФБР Д. ЗАХАРАВА.

---

# УМОВЫ
## Конкурса-соцспаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце і яго фінансавую секцыю

Задачай Ўсебеларускага конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце і яго фінансавую секцыю з'яўляецца ўзняцце фінансавай работы на ўзровень важнейшых гаспадарча-палітычных задач на аснове разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж сельсоветамі, калгасамі, вёскамі, МТС, грамадскімі арганізацыямі і ўдарнікамі, стварэнне шырокага актыва з ударнікаў рабочых і работніц, калгаснікаў і калгасніц.

Умовы конкурса:

1. Лепшая арганізацыя і выкананне сельскага бюджэта:

а) папулярызацыя сельскага бюджэта сярод шырокіх працоўных мас шляхам абгаварэння фінансіруем х па бюджэту мерапрыемстваў на сходах калгаснікаў і актыва;

б) своечасовае і поўнае выкананне даходаў і забеспячэнне вызначаных па сельскаму бюджэту мерапрыемстваў па ўсіх галінах гаспадарчага і соцыяльна-культурнага будаўніцтва;

в) захаванне строгай бюджэтнай дысцыпліны ў расходванні сродкаў, безумоўнага захавання вызначаных лімітаў на капітальнае будаўніцтва, фондаў зарплаты і адміністрацыйна-кіраўнічых расходаў;

г) прыцягненне грамадскасці да кантроля за эфектыўным і правільным скарыстаннем бюджэтных сродкаў, шляхам сістэматычнай праверкі расходаў, стварэння грамадскіх пастоў ва ўстановах, якія фінансіруюцца па мясцоваму бюджэту;

д) актыўны ўдзел ва ўсёй бюджэтнай рабоце фінансавай секцыі сельскага совета.

2. Лепшае выкананне фінансавага плана:

а) поўнае і сістэматычнае з дэкады ў дэкаду, з месяца ў месяц, з квартала ў квартал, выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва па ўсіх абавязковых і добраахвотных плацяжах;

б) **у галіне пазыкі:** поўнае выкананне вызначанага для сельскага совета задання па рэалізацыі пазыкі сярод усіх соцыяльных груп рабочых, служачых, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў з 100 проц. ахватам пазыкай працоўных, выдзяленне працаздольных упаўнаважаных сельскага совета ў калгасах для збору ўзносаў і забеспячэння поўнага паступлення грошай па падпісцы сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў не пазней 1-га снежня 1934 года, з якіх 25 проц. сумы ў маі месяцы; своечасовае і поўнае паступленне ўзносаў па падпісцы сярод рабочых і служачых і іншага працоўнага насельніцтва;

в) **у галіне ашчаднай справы:** поўнае выкананне плана па ўкладах; ператварэнне ашчаднай касы ў культурную, забяспечыўшы яе адпаведным памяшканнем, кваліфікаванымі работнікамі, забяспечыць належнае абслугоўванне пазыкатрымальнікаў шляхам сістэматычнай праверкі аблігацый пасля кожнага тыража і інш.; сістэматычная і актыўная работа камісіі садзейнічання пры сельскім

совеце і аперацыйнае кіраўніцтва з яе боку работай калгасных камсодаў.

3. Лепшая работа сельскага совета ў галіне правядзення масавых плацяжоў—сельскагаспадарчага налога, дзяржаўнага страхавання, самаабкладання і інш.;

а) Лепшае правядзенне агітмасавай работы па папулярызацыі закона па с-г. налогу, акладному страхаванню і самаабкладанню (правядзенне сходаў ва ўсіх калгасах і паселішчах);

б) своечасовы і поўны ўчот аб'ектаў сельгасналога і акладнога страхавання: поўнае саўпаданне падлічаных пасеўных плошчаў з даведзенымі земаддзеламі сельсовета пасеўнымі планамі; поўнае выяўленне неземляробчых заработкаў, падлягаючых абкладанню; правільнае і поўнае выяўленне ў аднаасобных гаспадарках даходаў ад продажу с-г. прадуктаў на рынку; поўны ўчот жывёлы на аснове фактычнай праверкі;

в) поўнае, правільнае і своечасовае прадстаўленне ўсіх устаноўленых законам льгот, асабліва па маламоцнасці, чырвонаармейцам і іх сем'ям;

г) поўнае выяўленне кулацкіх гаспадарак і недапушчэнне абкладання у індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак;

д) лепшая арганізацыя, на аснове масавай работы, датэрміновага паступлення абавязковых плацяжоў;

е) своечасовае і правільнае вырашэнне падаваемых скарг і заяў па абавязковых плацяжах (вырашэнне скарг у трохдзённы тэрмін з дня падачы, праверка скарг на месцы).

4. У галіне ліквідацыі страт па дзяржаўнаму страхаванню і поўнага ахвату ўсіх рабочых, служачых і калгаснікаў калектыўным добравольным страхаваннем жыцця:

а) поўнае асвятленне сапраўдных прычын падзяжу жывёлы і састаўленне актаў на паўшую жывёлу не пазней адных сутак з моманту яе падзяжу;

б) своечасовае паведамленне райстрахінспекцыі аб усіх страхавых стратах у будынках, с-г пасевах і актыўная дапамога раённай страхавой камісіі ў выяўленні безгаспадарчасці і драпежніцкіх адносін да жывёлы і інш. застрахаванай маёмасці;

в) сістэматычная праверка (не менш разу ў месяц) становішча застрахаванай маёмасці калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, процілажарныя мерапрыемствы, з прыцягненнем да гэтай работы калгаснікаў-ударнікаў і актыва працоўных аднаасобнікаў;

г) арганізацыя і дапамога ў рабоце страхавым кантрольным пастам і грамадскім інспектарам, скліканне страхавога актыва не менш аднаго разу ў квартал;

д) поўны ахват калектыўным добравольным страхаваннем жыцця ўсіх рабочых і служачых калгаснікаў.

5. Правядзенне жорсткай барацьбы са стратамі і растратамі:

а) сістэматычныя рэвізіі (не радзей аднаго разу ў квартал) фінансавых спраў сельскага совета рэвізійнай камісіяй, з пастаноўкай ітогаў на абгаварэнне пленума сельскага совета і актыва;

б) своечасовая і поўная здача ў крэдытныя ўстановы дзяржаўных даходаў у вызначаныя законам тэрміны;

в) дакладны ўлік паступленняў па ўсіх плацяжах, строгі ўлік квітанцый, сістэматычная праверка правільнасці запрыходвання даходаў.

6. Захаванне строгай рэвалюцыйнай законнасці ва ўсёй фінансавай рабоце.

7. Чоткае і своечасовае прадстаўленне ўстаноўленай фінансавай адчотнасці і вядзенне строгага ўліку ва ўсёй фінансавай рабоце.

Старшыня Цэнтральнай конкурснай камісіі
при прэзідыуме ЦВК БССР М. ЛЕЎКОЎ.

---

Па згодзе з Цэнтральнай конкурснай камісіяй ЦВК СССР зацвярджаю— старшыня камісіі нам. наркома фінансаў СССР Р. ЛЕВІН.
10|VI 1934 г.

# ПАКАЗЧЫКІ
## для ацэнкі работы сельскіх советаў, фінансавых секцый і рэвізійных камісій, удзельнічаючых ва ўсесаюзным конкурсе-спаборніцтве на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце, лепшую фінансавую секцыю і рэвізійную камісію

### 1. Для сельскага совета

1. Поўнае выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва па кожнай крыніцы і ва ўстаноўленыя законам тэрміны, у тым ліку па сел.-гасп. акладному страхаванню, самаабкладанню, поўны і своечасовы збор грошай па падпісцы на пазыку „Другой пяцігодкі“ (выпуск другога года) і выкананне плана прыцягнення ўкладаў у ашчадныя касы.

2. Поўная ліквідацыя нядоімак па культзбору, сельгасналогу, самаабкладанню і акладному страхаванню: састаўленне спісаў нядоімшчыкаў на працягу 2-х дзён пасля кожнага тэрміну ўплаты, правільнае налічэнне пені і т. д.

3. Правільнае састаўленне і выкананне сельскага бюджэта і ўкараненне строгай бюджэтнай дысцыпліны: своечасовае і правільнае састаўленне квартальных касавых планаў, выкананне даходнай часткі сельскага бюджэта, вытварэнне расходаў у строгай адпаведнасці з асігнаваннямі па бюджэту, своечасовая выплата зарплаты, у прыватнасці, настаўнікам і медработнікам і своечасовае і поўнае фінансаванне падрыхтоўкі да новага навучальнага года; захаванне грошай сельскага бюджэта ў касах Дзяржбанка або ў ашчадных касах, правільная пастаноўка ўліку і адчотнасці па выкананню бюджэта.

Строгі кантроль за правільным расходваннем грошай установамі, якія састаяць на сельскім бюджэце, своечасовае атрыманне адчотаў ад асоб і ўстаноў, атрымліваючых авансы, праверка гэтых адчотаў і недапушчэнне накаплення авансавай запазычанасці.

Паквартальныя адчоты на пашыраным паседжанні прэзідыума сельсовета аб выкананні сельскага бюджэта з садакладам рэвізійнай камісіі і даклады аб выкананні бюджэта на сходах калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў.

Своечасовае састаўленне сельскага бюджэта на 1935 г. з поўным учотам і выяўленнем усіх даходных крыніц.

4. **Своечасовы і поўны учот аб'ектаў абкладання і правільнае вылічэнне сельгасналога, акладнога страхавання і самаабкладання:** правільны і поўны ўчот жывёлы ў калгасах, сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў усіх відаў і ўзросту незалежна ад таго, належыць яна налогаваму абкладанню ці страхаванню, ці неналежыць; правільны і поўны ўчот усіх гаспадарак, у тым ліку не маючых аб'ектаў абкладання і часова выбыўшых к моманту ўчоту; правільны ўчот усіх пасеўных плошчаў, згодна устаноўленых планаў; поўны ўчот сенажацей, садоў, вінаграднікаў, правільны і поўны ўчот гаспадарак аднаасобнікаў, маючых неземляробчыя заработкі і даходы ад продажу сваіх прадуктаў па цэнах, састаўляючыхся на рынку і правільнае вызначэнне гэтых даходаў.

Своечасовае і правільнае вылічэнне сел.-гасп. налога, акладнога страхавання і самаабкладання кожнаму паасобнаму плацельшчыку, своечасовае і правільнае прадастаўленне ўсіх устаноўленых законамі льгот і скідак, своечасовае ўручэнне паведамленняў плацельшчыкам і запаўненне асабовых рахункаў.

Поўнае выяўленне і абкладанне ў індывідуальным парадку кулацкіх гаспадарак і недапушчэнне абкладання гаспадарак працоўных у парадку і размерах, прадугледжаных для кулацкіх гаспадарак.

Актыўная работа сельскай налогавай і страхавой камісіі па ўчоту аб'ектаў і налічэнню плацяжоў, прыцягненне да работы па ўчоту а'ектаў, праверцы вылічэння плацяжоў і правільнасці прадастаўлення льгот, сельскага актыва і, у першую чаргу, членаў сельсоветаў фінансавай і сельскагаспадарчай секцыі і фінактывістаў.

Прапрацоўка законаў аб сельгасналогу, самаабкладанню і акладному страхаванню на пашыраных паседжаннях сельсоветаў з прыцягненнем актыва і на сходах калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў.

Своечасовае і правільнае разгледжанне скарг.

5. **Правільная арганізацыя работы па акладному страхаванню.** Арганізацыя пры кожным сельсовеце працаздольнай сельскай страхавой камісіі, выдзяленне працаздольнага грамадскага страхавога інспектара і страхавых сігнальных пастоў у калгасах.

Своечасовае і правільнае састаўленне страхавых актаў і выяўленне сапраўдных прычын страт, рашуча выяўляючы факты ашуканства дзяржавы з боку класава-чуждых элементаў пры атрыманні страхавой узнагароды, забяспечваючы ў той-жа час своечасовую ўплату сапраўдных страт ад стыхійных бядот; сістэматычная праверка застрахаванай маёмасці ў калгасах, калгаснікаў і працоўных аднаасобных гаспадарках і неадкладнае паведамленне райвыканкому аб усіх момантах безгаспадарчых адносін да маёмасці.

Найбольшы ахват калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў калектыўным страхаваннем жыцця і добравольным страхаваннем жывёлы і кантроль за своечасовай выплатай узнагароды.

Правільнае расходванне адлічэнняў ад страхавых плацяжоў на папярэджваючыя мерапрыемствы (проціпажарная ахова, барацьба з эпізоатыямі) і недапушчэнне расходвання гэтых сродкаў на іншыя патрэбы.

Своечасовае і правільнае прадастаўленне льгот па страхаванню і своечасовы разгляд скарг і заяў.

6. **Арганізацыя паказальнай, культурнай ашчаднай касы.** Забеспячэнне ашчадкасы добрым памяшканнем і добрым саставам работнікаў, утрыманне памяшкання ў чыстаце, паказальнае абслугоўванне пазыкатрымацеляў і ўкладчыкаў, своечасовая раздача аплачаных аблігацый пазык, сістэматычная праверка і выяўленне выйгрышаў; выдзяленне з лепшых ударнікаў калгаснікаў і калгасніц і перадавых працоўных аднаасобнікаў упаўнаважаных ашчадкас па прыцягненню ўкладаў, кіраўніцтва ўпаўнаважанымі і сістэматычная праверка іх работы.

Поўнае выкананне плана прыцягнення ўкладаў у ашчадкасы і поўны збор узносаў па вытваранай падпісцы на пазыку 2-й пяцігодкі (вып. 2-га года)—на падставе штодзённай масавай работы і паказальнага абслугоўвання ашчадкасай працоўных.

Правільны ўчот паступленняў сродкаў па пазыцы і своечасовая перадача сабраных грошай у ашчадкасы.

Узмацненне састава камсодаў пры сельсоветах і калгасах і сістэматычнае кіраванне іх работай.

7. **Паказальная пастаноўка фінансавага ўчота і адчотнасці.** Правільнае вядзенне кніг і дакументаў па фінансаваму ўчоту, выкананню сельскага бюджэта, афармленне прыёму і расходвання грашовых сум і маёмасці, правільнае вядзенне асабовых рахункаў плацельшчыкаў, разліковых ведамасцей і т. д. па сел.-гасп. укладному страхаванню, самаабкладанню, пазыцы і інш., правільнае і своечасовае прадастаўленне раённым арганізацыям усёй устаноўленай для сельсовета адчотнасці.

8. **Правільная арганізацыя прыёму, захавання і здачы ў Дзяржбанк або ашчадкасу грашовых сум дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў.** Абавязковая выдача кожнаму плацельшчыку квітка ўстаноўленай формы і правільнае яго запаўненне, правільны ўчот, захаванне і расходванне квітанцыйных кніжак, уважлівы падбор і строгі ўчот ўсіх упаўнаважаных с-совета па збору грошай, інструктаж і праверка іх работы і атрыманне ад іх сабраных грошай не радзей аднаго разу ў два дні.

Поўная здача ў Дзяржбанк або ашчадкасу сабраных с-советам грашовых сум ў дакладна ўстаноўленыя тэрміны.

Адсутнасць фактаў растрат, раскраданняў і няправільнага расходвання сабраных сельсоветам грашовых сродкаў.

9. **Строгае захаванне рэволюцыйнай законнасці ў фінансава-налогавай і страхавой рабоце.** Дасканалае захаванне законаў пры абкладанні налогам калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў і правільнае вылічэнне акладнога страхавання і самаабкладання, правільнае і своечасовае прадастаўленне ўсіх льгот і скідак.

Недапушчэнне выпадкаў спагнання з калгасаў налогаў, страхавых плацяжоў, плацяжоў па пазыцы за калгаснікаў, недапушчэнне выпадкаў незаконнага спісання грашовых сум з бягучых рахункаў калгасаў.

Недапушчэнне якіх-бы то ні было незаконных мясцовых налогаў і збораў (налогатворчаства).

Абавязковае захаванне прынцыпу поўнай добравольнасці ў прыцягненні ўкладаў у ашчадкасы і беспераашкодная выдача ўкладаў.

Своечасовы, уважлівы і правільны разгляд усіх скарг і заяў калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў па налогах і страхавых плацяжах.

10. **Паказальная арганізацыя работы фінансавай секцыі і фінансавага актыва.** Падбор працаздольнага састава фінансавай секцыі, кіраўніцтва і праверка яе дзейнасці, уцягненне ў фінансавую секцыю жанчын-актывістак, работніц і калгасніц.

Прыцягненне фінсекцыі да актыўнага ўдзелу у састаўленні і выкананні сельскага бюджэта, дача фінсекцыі канкрэтных даручэнняў па абследванню і праверцы расходвання сродкаў установамі, якія састаяць на сельскім бюджэце, заслухоўванне адчотаў фінсекцыі на пашыраных паседжаннях сельскага совета не радзей аднаго разу ў месяц.

Ператварэнне фінсекцыі ў цэнтр, які павінен аб'яднаць і арганізаваць увесь фінансавы актыў на выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

Штодзённая забота аб членах фінсекцыі і фінактывістах, падвышэнне іх кваліфікацыі шляхам прапрацоўкі з імі планаў мабілізацыі сродкаў, сельскага бюджэта, законаў і інструкцый аб сел.-гасп. налогу, самаабкладанні і акладным страхаванні.

11. **Масава-палітычная работа па мабілізацыі сродкаў насельніцтва і сельскаму бюджэту.** Соцспаборніцтва паміж сельсоветамі на лепшае выкананне фінплана і арганізацыя соцспаборніцтва паміж калгасамі, калгаснымі брыгадамі, паселішчамі і паасобнымі фінударнікамі.

Асвятленне пытанняў мясцовага бюджэта, сельгасналога, акладнога страхавання, самаабкладання, збору сродкаў па пазыцы і прыцягненне ўкладаў у ашчадкасы ў насценным друку, палітаддзельскіх і раённых газетах.

Прапрацоўка паказчыкаў па конкурсу-спаборніцтву на пашыраных сходах калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў і мабілізацыя працоўных мас вёскі на паспяховае выкананне паказчыкаў па гэтаму конкурсу.

## II. Для фінансавай секцыі сельсовета

1. **Правільная арганізацыя работы фінсекцыі:** Састаўленне квартальных і месячных планаў работы і выкананне іх ў намечаныя тэрміны, учот фінактыва, учот і праверка кожнага члена секцыі і фінактывіста.

2. **Штодзённы ўчот, практычны ўдзел у барацьбе за выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва:** шырокае правядзенне масава-раз'яснялінай работы сярод калгаснікаў і працоўных адна-

асобнікаў па выкананню імі сваіх фінансавых абавязацельстваў, арганізацыя соцспаборніцтва паміж калгасамі, калгаснымі брыгадамі, паселішчамі і паасобнымі фінактывістамі на лепшае выкананне фінплана; удзел у соцспаборніцтве з фінсекцыямі суседніх сельсоветаў; арганізацыя буксірных брыгад перадавых калгасаў у адстаючыя; правільнае размеркаванне фінактыва для выканання паасобных работ (асобна па сельгасналогу, па пазыцы і т. д.).

3. **Актыўны ўдзел фінсекцыі ў састаўленні і выкананні сельскага бюджэта:** нагляд за своечасовым і поўным паступленнем у сельскі бюджэт усіх даходаў; грамадская праверка правільнасці расходвання сродкаў школамі, больніцамі і інш. установамі, якія састаяць на сельскім бюджэце.

4. **Актыўны ўдзел фінсекцыі ў рабоце па ўчоту аб'ектаў абкладання,** вылічэнню плацяжоў, вызначэнню страхавых страт і выяўленню іх сапраўдных прычын, разгляд скарг плацельшчыкаў, а таксама ў праверцы выйгрышаў па пазыках.

5. Узмацненне састава фінсекцый за лік лепшых ударнікаў калгаснікаў і калгасніц і перадавых працоўных аднаасобнікаў і выключэнне непрацаздольных і, асабліва, чуждых нам людзей, правільнае скарыстанне секцыянераў і фінактывістаў—устанаўленне для іх канкрэтных заданняў і праверка выканання імі гэтых заданняў; перадача вопыту лепшых фінактывістаў.

Адсутнасць цякучасці ў саставе членаў фінсекцыі і фінактыва, заахвочванне лепшых фінактывістаў праз друк, занясенне іх на дошку гонару і т. д.

6. **Выдзяленне ў кожным калгасе—пры дэпутацкай групе—фінгрупы або фінарганізатара** для садзейнічання выкананню плана мабілізацыі сродкаў ў калгасах. Штодзённы нагляд за работай фінарганізатараў, заслухоўванне іх дакладаў на фінсекцыі.

7. **Прыцягненне да работы фінсекцыі профсаюзных, комсамольскіх і інш. грамадскіх арганізацый на вёсцы.**

8. **Адчоты фінсекцыі аб яе рабоце** на агульных сходах калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў не радзей аднаго разу ў 3 месяцы.

## III. Для рэвізійнай камісіі сельсовета

1. **Вытварэнне суцэльнай рэвізіі фінансавай работы сельсовета не радзей аднаго разу ў квартал:** уважлівая праверка правільнасці прыходвання і расходвання грашовых сродкаў, учоту і захавання каштоўных папер, бланкаў і квітанцый, правільнасці вядзення рахункаводства па бюджэту, асабовых рахункаў па сельгасналогу, самаабкладанню і акладному страхаванню, перачняў паступленняў, разліковых ведамасцей па пазыцы, правільнасці выдачы квітанцый плацельшчыкам, своечасовасці раздачы аплачаных аблігацый падпісчыкам, праверка зборшчыкаў грошай, правільнасці і своечасовасці здачы собраных грошай у касы Дзяржбанка або ў ашчадкасы, праверка ўчоту, захавання і рэалізацыі апісанай маёмасці.

2. **Вытварэнне штомесячных рэвізій па асабовых галінах фінансавай работы сельсовета:** праверка наяўнасці касы, правільнасці прыёму грошай, своечасовасці і паўнаты здачы сабраных сродкаў, у асаблівасці, сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў у касы

Дзяржбанка або ў ашчадкасы; праверка правільнасці ўчоту і захавання квіткоў; праверка зборшчыкаў грошай, праверка непасрэдна ў плацельшчыкаў (падворна) правільнасці выдачы ім квіткоў.

3. **Працаздольнасць састава рэвізійнай камісіі:** актыўная работа кожнага члена рэвізійнай камісіі, замена ўстаноўленым парадкам непрацаздольных членаў рэўкамісіі лепшымі ўдарнікамі-калгаснікамі і калгасніцамі.

4. **Прыцягненне да работы рэвізійнай камісіі калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў і асвятленне матэрыялаў рэвізіі ў друку:** прыцягненне да правядзення рэвізіі членаў фінансавай і сел. гасп. секцыі сельсовета, комсамольцаў, з даручэннем ім паасобных самастойных заданняў па праверцы расходаў у школах, больніцах і інш. установах, праверка сельскіх зборшчыкаў і т. д.; даклады аб рэзультатах рэвізій на пашыраных паседжаннях сельсовета з прыцягненнем усяго сельскага актыва; асвятленне рэзультатаў рэвізій у насценным друку, палітаддзельскай і раённай газеце; адчотныя даклады перад выбаршчыкамі.

5. **Своечасовае выкананне ўказанняў райфінаддзелаў і яго інструктароў аб рабоце рэвізійных камісій.**

6. **Сістэматычная праверка рэвізійнай камісіяй своечасовасці выканання сельсоветам прапаноў па рэзультатах рэвізій, вытвараных** інструктарамі райфа і рэўкамісіяй.

7. **Даклады рэвізійнай камісіі ў райвыканкоме аб рэзультатах рэвізій** не радзей аднаго разу ў поўгоддзе, неадкладнае давядзенне да ведама райвыканкома і райфінаддзела аб усіх выяўленых рэўкамісіяй непарадках і злоўжываннях у сельсовеце з паказаннем канкрэтных вінаватых.

8. **Неадкладна перадаваць справы на разгляд вышэйстаячых арганізацый і судовым органам аб выяўленых растратах, раскраданнях,** незаконным расходванні сродкаў і маёмасці і дабівацца таго, каб растратчыкі былі зняты з работы і пакараны.

Адк. сакратар камісіі НКФ СССР ЧАТВЕРЫКОЎ.

---

Зацвярджаецца
Р. ЛЕВІН
9|VI-1934 г.

# ПАКАЗЧЫКІ

## для ацэнкі работы фінорганаў па арганізацыі і кіраўніцтву конкурсам-спаборніцтвам сельсоветаў, фінансавых секцый і рэвізійных камісій

1. **Уключэнне ў конкурс-спаборніцтва сельсоветаў, фінсекцый і рэвізійных камісій.**

Паказчыкі — колькасць і процант сельсоветаў, фінсекцый і рэўкамісій, удзельнічаючых у конкурсе: масавыя мерапрыемствы, праведзеныя ў сувязі з конкурсам і ступень удзелу ў ім грамадскіх арганізацый і друку.

2. Дасягненні ў фінансавай рабоце сельсоветаў і выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

Паказчыкі—поўнае і своечасовае выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва за III квартал і кастрычнік месяц па кожнаму плацяжу і забеспячэнне выканання плана IV квартала, процант сельсоветаў, выканаўшых план мабілізацыі сродкаў, і ступень выканання імі астатніх паказчыкаў па конкурсу.

3. **Дапамога фінорганаў сельсоветам, фінсекцыям і рэвізійным камісіям у выкананні імі паказчыкаў конкурса.**

П а к а з ч ы к і: колькасць сельсоветаў, абслугоўваемых сіламі фінорганаў у перыяд конкурса, колькасць работнікаў гарадскіх і раённых фінорганаў і ашчадкас, пасланых у сельсоветы для практычнай дапамогі ім у правільнай пастаноўцы фінансавай работы, учоту і адчотнасці. Якасць праробленай гэтымі людзьмі работы ў сельсовеце.

4. **Узмацненне састава і работы фінансавых секцый сельсоветаў.**

П а к а з ч ы к і: працаздольнасць фінансавых секцый, колькасць і процант фінсекцый, выканаўшых паказчыкі конкурса, мерапрыемствы фінорганаў па кіраўніцтву і ўзмацненню сувязі з фінсекцыямі і дапамогі ім ў штодзённай рабоце.

5. **Узмацненне сельсоветаў рахункаводамі.**

П а к а з ч ы к і: правядзенне мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы рахункаводаў сельсоветаў; колькасць і процант сельсоветаў, забяспечаных кваліфікаванымі рахункаводамі.

6. **Работа з фінансавым актывам на вёсцы.**

П а к а з ч ы к і: пастаноўка ўчота фінактыва. Масава-палітычная работа з фінактывам і навучанне яго тэхніцы фінансавай справы; максімальнае ўцягненне ў фінансавыя секцыі сельсоветаў жанчын-актывістак, работніц і калгасніц.

7. **Арганізацыя работы па конкурсу.**

П а к а з ч ы к і: сувязь з конкурснай камісіяй пры выканкоме, сувязь і кіраўніцтва раённымі фінансавымі органамі, а з боку райфа—сельсоветамі; учот ходу і рэзультатаў конкурса, выяўленне і ўчот лепшых сельсоветаў, рэўкамісій і фінсекцый і пашырэнне іх вопыту, асвятленне пытанняў конкурса ў друку, своечасовая і поўная інфармацыя вышэйстаячых органаў аб рабоце па конкурсу і выкананне іх паказанняў.

8. Работа інспектароў масавых плацяжоў, страхавых інспектароў, інспектароў бюджэта, спецінструктароў і работнікаў ашчадкас у арганізацыі фінансавай работы советаў, секцый і рэвізійных камісій.

9. Своечасовае выпраўленне недахопаў у фінансавай рабоце сельсоветаў, фінсекцый і рэвізійных камісій, выяўленых у перыяд правядзення конкурса-спаборніцтва.

№ 3
11|VI 1934 г.

---

*Асабіста*

## Загадчыкам Гарфа і Райфа БССР

Не гледзячы на своечасовыя і ясныя паказанні аб актыўным удзеле фінорганаў у правядзенні конкурса на лепшы сельсовет, фінсекцыю і рэвізійную камісію па фінансавай рабоце, гэта кам-

панія слаба разгортваецца на мясцах. Фінансавыя ўстановы і арганізацыі зусім недастаткова ўдзельнічаюць у праводзімым конкурсе. Напрыклад, праведзеныя куставыя нарады загадчыкаў гаррайфа, старшынь раённых конкурсных камісій, рэдактароў раённых газет і праведзеная радыё-пераклічка 17 чэрвеня паказалі, што асабліва дрэнна разгортваецца праца па конкурсу, ў раёнах: Магілёўскім, Бабруйскім, Горацкім, Сенненскім, Лепельскім, Гарадоцкім, Полацкім і раду іншых.

15-га чэрвеня скончыўся першы тур конкурса-соцспаборніцтва і 20|VI вы павінны былі падвесці ўсе вынікі і даслаць Наркамфіну даныя перш за ўсё аб уключэнні ўсіх сельсоветаў у конкурс, паўным спагнанні нядоімак па культзбору і паступленні ўзносаў па пазыцы па ўсіх соцыяльных групах. Вамі гэта дырэктыва не выканана. Вы працягваеце займацца агульнымі разважаннямі, лічучы, што справа правядзення конкурса спаборніцтва не ваша, а што гэтым павінны займацца толькі райвыканком, профсаюзы.

Лічучы такія адносіны да правядзення конкурса, як вялікай грамадска-палітычнай кампаніі недапушчальнымі, даручаю вам асабіста, зараз-жа дабіцца выканання ўсіх паказанняў па ўключэнню ў конкурс і на падставе разгортвання шырокай аргмасавай работы па ажыццяўленню фінпаходу і конкурса—дасягнуць:

а) поўнага выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва падэкадна і пакв артальна;

б) укаранення строгай фінансава-бюджэтнай дысцыпліны;

в) своечасовага і поўнага ўчоту аб'ектаў абкладання, асабліва жывёлы, правільнага налічэння налога і дзяржаўнага страхавання

г) добраякаснага і своечасовага вядзення ўчоту і адчотнасці;

д) наладзіць належны прыём і захаванне наяўных дзяржаўных сродкаў, своечасовую перадачу іх у дзяржаўныя касы;

е) дабіцца правільнага ажыццяўлення рэволюцыйнай законнасці ў фінансавай рабоце.

Уся работа па выкананню абавязковых і добраахвотных плацяжоў павінна весціся вызначанымі законам і дырэктывамі метадамі, шляхам арганізаванасці, палітычнай вытрыманасці, дзелавой аперацыйнасці, ударніцтва і соцспаборніцтва.

Побач з гэтым, у выкананне пастановы ЦВК Саюза ад 10-га чэрвеня і ЦВК БССР аб уключэнні рэвізійных камісій ва Ўсесаюзны конкурс-соцспаборніцтва, абавязваю вас дабіцца:

а) узмацнення састава рэвізійных камісій;

б) абавязковай штомесячнай праверкі касы і пакв артальных рэвізій усёй фінансавай дзейнасці сельсовета;

в) рэгулярнай адчотнасці перад насельніцтвам аб рэзультатах рэвізіі фінансавай дзейнасці сельсовета і аб выкананні сельскага бюджэта.

Сёнешняй пастановай Наркамфіна састаўлена спецыяльная камісія наркамата, якая будзе сістэматычна правяраць актыўнасць, вашага ўдзелу ў праводзімым конкурсе на лепшы сельсовет, фінсекцыю і рэвізійную камісію з належнымі вывадамі і прапановамі пры выкрыцці вашай бяздзейнасці.

Не пазней 27 чэрвеня хуткай поштай дашліце інфармацыю аб выніках першага туру конкурса-соцспаборніцтва, станоўчых і ад-

моўных баках у правадзімай грамадскай кампаніі і па-большэвіцку за справу да паспяховых вынікаў конкурса шырока скарыстайце раённыя злёты.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

21|VI-1934 г.
г. Менск

---

*Дырэктыўны ліст*

## Усім загадчыкам Гарфа і Райфа БССР

Па ўсяму БССР з 1-га ліпеня гг. пачаўся Ўсесаюзны конкурс на лепшы с-совет па фінансавай рабоце, лепшую фінсекцыю і рэвізійную камісію сельсовета. Конкурс мае вялікае грамадска-палітычнае значэнне. Ён павінен забяспечыць умацаванне фінансавай работы, галоўным чынам, на вёсцы, забяспечыць выкананне плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва па ўсіх добравольных і абавязковых плацяжах і дзяржлаходах. Праз конкурс мы павінны ўзмацніць фінансавую гаспадарку сельсоветаў і калгасаў, узняць якасць усёй фінансавай работы сельсоветаў, каб на гэтай падставе паспяхова выканаць фінплан, план мабілізацыі сродкаў насельніцтва і мясцовага (сельскага) бюджэта па даходнай і расходнай частцы.

Па БССР, як вядома, гэты конкурс пачаўся значна раней—яшчэ ў маі месяцы.

Аднак, першыя звесткі аб ходзе конкурса паказваюць, што некаторыя райгарфа уключыліся ў конкурс фармальна, зусім слаба разгарнулі работу па правядзенню конкурса і да гэтага часу не даслалі звестак у Наркамфін БССР аб уключэнні ў конкурс: Бабруйскі, Віцебскі, Глускі, Гомельскі, Дзяржынскі, Кармянскі, Касцюковіцкі, Крычаўскі, Лагойскі, Лельчыцкі, Магілеўскі, Прапойскі, Рэчыцкі, Сенненскі, Слуцкі, Старадарожскі, Старобінскі, Уздзенскі, Чаускі, Чырвонаслабодскі і Чэрвенскі раёны.

Для праверкі ўдзелу гаррайфа ў конкурсе і кіраўніцтва іх работай, пры НКФ БССР утворана цэнтральная конкурсная камісія. Пры гаррайфа камісіі не арганізоўваюць, а ўсю адказнасць за практычную арганізацыю работы па конкурсе ўскладаю на загадчыкаў гаррайфа, якія абавязаны:

1. Канкрэтна дапамагчы сельсоветам сіламі гаррайфа, мабілізуючы для гэтай мэты разам з старшынямі мясцкомаў ФБР, кваліфікаваных фінансавых работнікаў, якіх неабходна накіраваць у вёску з тым, каб гэтыя людзі на месцы практычна дапамаглі і навучылі старшынь сельсоветаў і старшынь фінсекцый арганізаваць фінансавую работу, а рахункаводаў сельсоветаў правільна весці фінансавы учот паступленняў і разлікі з плацельшчыкамі і па бюджэту.

2. Забяспечыць уключэнне ў конкурс-спаборніцтва ўсіх сельсоветаў фінсекцый, рэвізійных камісій і разгарнуць грамадскае спаборніцтва паміж уключыўшыхся ў конкурс.

3. Правесці злёты фінактыва, сходы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, на якіх прапрацаваць значэнне, задачы і ўмовы кон-

курса. Мабілізаваць увагу актыва на выкананні фінансавага плана па мабілізацыі сродкаў другога паўгоддзя 1934 года.

4. Лепшыя метады работы па ходу конкурса і яго паказчыкі шырока папулярызаваць у друку, у райгазетах, сценгазетах, у соўгасах, калгасах і сельсоветах.

5. Па дзелавому ўзмацніць актывістамі фінсекцыі советаў, рэвізійныя камісіі, налогавыя і страхавыя інспектуры, камсоды, шляхам поўнага ўчоту становішча і работы ўсіх гэтых органаў конкурснай праверкай працаздольнасці іх на справе.

6. Безумоўна утварыць пры кожным сельсовеце сапраўды працаздольную фінансавую секцыю і арганізаваць правільную яе работу. Гарфа, райфа павінны выканаць гэтую задачу з тым, каб фінансавую работу ў вёсцы паставіць на вышэйшую ступень.

7. Пашырыць на аснове конкурса вясковы фінансавы актыў, паставіць чоткі ўчот і сістэматычную работу з актывам па ўзняццю іх кваліфікацыі (правядзенне семінараў з фінактывам па прапрацоўцы законаў аб сельска-гаспадарчым самаабкладанні, арганізаваць гурткі. на якіх прапрацоўваць ўсе пастановы партыі і ўраду па мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

8. Шырока разгарнуць работу па ўцягненню ў фінансавы актыў жанчын-калгасніц, лепшых актывістак, вылучаць на работу ў якасці старшынь фінсекцый, акружыць актывістак асобай увагай, заахвочваць іх ініцыятыву і дапамагаць ім у іх рабоце—гэта галоўнае.

9. Загадчыкі гаррайфа абавязаны на аснове гэтых указанняў і паказчыкаў конкурса распрацаваць канкрэтны план мерапрыемстваў па правядзенню конкурса на тэрыторыі раёна.

10. Конкурс неабходна ўзняць на вялікую грамадска-палітычную вышыню, прыцягнуць да ўдзелу ў ім на аснове спаборніцтва калгасы, соўгасы, МТС і ўсю сельскую грамадскасць, асабліва комсамол.

Неабходна ўстанавіць сувязь з палітаддзеламі, дабіцца у іх дапамогі па паспяховаму правядзенню конкурса.

11. Аб ходзе спаборніцтва дасылайце падрабязныя інфармацыі два разы ў месяц к 10 і 20 числу кожнага месяца з тым, каб своечасова інфарміраваць аб вашай рабоце па конкурсу-спаборніцтву НКФ СССР і Прэзідыум ЦВК БССР.

12. Папярэджваю, што мы будзем мець меркаванні і аб кіраўніках гаррайфа, якія не дасягнуць у выніку конкурса рашучага палепшання фінансавай работы с-советаў і пастаноўкі ў іх фінансавага учоту і адчотнасці з прыняццем адпаведных вывадаў.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

*7 ліпеня* 1934 *г.*

---

# ПАСТАНОВА
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

21 *чэрвеня* 1934 *г.* *г. Менск.*

Для арганізацыі актыўнага ўдзела фінорганаў у праводзімым конкурсе на лепшы сельсовет, фінсекцыю і рэвізійную камісію ў галіне фінансавай работы, для ажыццяўлення сістэматычнага кантроля, нагляду і кіраўніцтва праводзімым конкурсам па лініі фінансавай сістэмы на мясцах, для вызначэння мерапрыемстваў па правядзенню конкурса па лініі цэнтральных фінансавых устаноў і арганізацый, утварыць камісію Наркамфіна у саставе: намесніка наркома т. **Елінеўскага** (старшыня камісіі), намесніка старшыні камісіі т. **Захаравай**, членаў камісіі: тт. **Адама** (з降 заменай яго ў час лагернага збора т. **Мельнікавым**), **Эйдліна** (з заменай пры адсутнасці т. **Нісневічам**), **Варшаўскага**, **Фельгіна**, **Орсіка**, **Вішнеўскага**, (з заменай на час адпачынку т. **Дайнеко**), **Хмеля** і **Нефедава**.

Адказным сакратаром камісіі прызначыць т. Хмеля.

Даручыць камісіі кіравацца ў сваёй працы пастановамі ЦВК СССР і ЦВК БССР, Наркамфіна СССР і БССР, пры правядзенні конкурса і па сканчэнню работ даць пісьмовы даклад Наркому.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

ЗАЦВЕРДЖАНА
Цэнтральн. Конкурснай Камісіяй
пры Прэзідыуме ЦВК СССР
Нам. старшыні Камісіі
А. МЯДЗВЕДЗЕЎ.
25 чэрвеня 1934 г.

# ПАРАДАК
## прэміравання ўдзельнікаў Усесаюзнага конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце, лепшую фінансавую секцыю і рэвізійную камісію сельсовета

1. Удзельнікам усесаюзнага конкурса-спаборніцтва на лепшы сельскі совет па фінансавай рабоце, лепшую фінансавую секцыю і рэвізійную камісію сельскага совета, паказаўшым большэвіцкія паказчыкі барацьбы за выкананне фінансавага плана і падвышэнне якасці фінансавай работы сельсоветаў, выканаўшым паказчыкі і праявіўшым асобую ініцыятыву і актыўнасць у арганізацыі і правядзенні Ўсесаюзнага конкурса-спаборніцтва—устанаўліваюцца наступныя прэміі:

**I. З аб'яднанага фонда прэзідыума ЦВК СССР і НКФ СССР**

**Для сельскіх советаў:**

Першая прэмія—10 тыс. руб. . . . 6 прэмій
Другая „ —5 „ „ . . . . 25 „

**Для старшынь сельсоветаў:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—600 руб. | . . . . | 10 прэмій |
| Другая „ —500 „ | . . . . | 30 „ |
| Трэцяя „ —400 „ | . . . . | 75 „ |

Прэміі прысуджаюцца тым сельсоветам і іх старшыням, якія побач з паказальнай работай у галіне фінансаў, маюць безумоўна добрыя паказчыкі па правядзенню асноўных сел.-гасп. кампаній.

## II. З фонда Наркамфіна СССР.

**Для сакратароў сельсоветаў:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—400 руб. | . . . . | 15 прэмій |
| Другая „ —300 „ | . . . . | 60 „ |
| Трэцяя „ —200 „ | . . . . | 75 „ |

**Для рахункаводаў сельсоветаў:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—400 руб. | . . . . | 15 прэмій |
| Другая „ —300 „ | . . . . | 60 „ |
| Трэцяя „ —200 „ | . . . . | 75 „ |

**Для старшынь і членаў фінсекцый:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—400 руб. | . . . . | 15 прэмій |
| Другая „ —300 „ | . . . . | 50 „ |
| Трэцяя „ —200 „ | . . . . | 75 „ |

**Для старшынь і членаў рэвізійных камісій:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—400 руб. | . . . . | 15 прэмій |
| Другая „ —300 „ | . . . . | 50 „ |
| Трэцяя „ —200 „ | . . . . | 75 „ |

**Для старшынь і членаў сельскіх налогавых і страхавых камісій старшынь і членаў камсодаў, грамадскіх інспектароў і паасобных фінактывістаў-ударнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—300 руб. | . . . . | 25 прэмій |
| Другая „ —250 „ | . . . . | 75 „ |
| Трэцяя „ —200 „ | . . . . | 100 „ |

**Для паасобных фінансавых работнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| Першая прэмія—3 мес. аклад зарплаты. | | 15 прэмій |
| Другая „ —2 „ „ „ | . | 60 „ |
| Трэцяя „ —месячны аклад зарплаты | | 75 „ |

2. Прэміруемым будуць выданы таксама адпаведныя граматы.

3. Прысуджэнне прэмій сельсоветам, іх старшыням і ўсім астатнім асобам праводзіцца Цэнтральнай конкурснай камісіяй пры Прэзідыуме ЦВК СССР па прадстаўленню ЦВК Саюзных рэспублік і Наркамфіна Саюза СССР.

Ар. п. нам. Наркома фінансаў СССР Р. ЛЕВІН,

---

*Загадчыку . . . . . . . . гаррайфа*

Пры гэтым накіроўваецца Вам парадак прэміравання ўдзельнікаў Усесаюзнага конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце, лепшую фінансавую секцыю і рэвізійную камісію сельсовета.

Дадаткова Прэзідыумам ЦВК БССР устаноўлены наступныя прэміі:

1) Для сельсовета адна прэмія 3000 руб.; 2) персанальныя прэміі для старшынь РВК і загадчыкаў райфа 4 прэміі па 500 руб.; 3) для старшынь с-советаў 10 прэмій па 300 руб.; 4) для фінсекцый дэпутацкіх груп і актыва 10 прэмій па 200 руб.—разам 10.000 руб.

Наркамфін БССР прапануе пад Вашу асабістую адказнасць прапрацаваць сярод шырокіх мас фінансавага актыва вызначаныя прэміі для прэміравання перадавых лепшых ударнікаў фінфронта.

Абавязкова дасылайце два разы ў месяц: 10 і 20 чысла кожнага м-ца канкрэтныя матэрыялы па ходу фінансавага конкурса аб рабоце лепшых фінударнікаў і іх фотакартачкі, паказы лепшых метадаў работы асобных сельсоветаў, фінсекцый, камсодаў і рэўкамісій.

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР ЕЛЕНЕЎСКІ.

---

# ПАСТАНОВА

## Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Беларускай ССР

### Аб вызначэнні размеру прэмій па конкурсах советаў 1934 г.

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага камітэта БССР пастанаўляе: для прэміравання лепшых РВК, горсаветаў, секцый, дэпутацкіх груп і актыва, паказаўшых большэвіцкія ўзоры работы ў час правядзення конкурса-спаборніцтва советаў у 1934 годзе, установіць наступныя прэміі:

| | Кольк. прэмій | Размер прэмій у руб. | Усяго руб. |
|---|---|---|---|
| **I. Па конкурсу на лепшы совет па развіццю жывёлагадоўлі і захаванню пагалоўя** | | | |
| Для райвыканкомаў . . . . . | 1 | 5000 | 5000 |
| „ сельсовета . . . . . . | 1 | 3000 | 3000 |
| „ калгаса, соўгаса і жывёлагадоўчай фермы . | 1 | 2000 | 2000 |
| **Персанальныя прэміі** | | | |
| Для старшыні РВК, заг. райза, заг. сектара жывёлагадоўлі райза . . . | 3 | 500 | 1500 |
| „ старшынь сельсоветаў . . . . | 5 | 300 | 1500 |
| „ кіраўнікоў жывёлагадоўчых секцый, дэпутацкіх груп і асобных актывістаў . | 10 | 200 | 2000 |
| **II. Па конкурсу на лепшы совет па дарожнаму будаўніцтву:** | | | |
| Для сельсовета . . . . . | 1 | 3000 | 3000 |

| | Кольк. прэмій | Размер прэмій у руб. | Усяго руб. |
|---|---|---|---|
| Персанальныя прэміі для старшынь РВК і загадчыкаў Дараддзелаў РВК . | 3 | 500 | 1500 |
| Для старшынь сельсоветаў . . . | 10 | 300 | 3000 |
| „ секцый дарожнага будаўніцтва, дэпутацкіх груп і актыва . . . . | 12 | 200 | 2400 |
| **III. Па конкурсу на лепшы совет па фінансавай рабоце:** | | | |
| Для сельсовета . . . . . | 1 | 3000 | 3000 |
| Персанальныя прэміі для старшынь РВК і загад. райфа . . . . | 4 | 500 | 2000 |
| Для старшынь сельсоветаў . . . | 10 | 300 | 3000 |
| „ фінсекцый, дэпутацкіх груп і актыва . | 10 | 200 | 2000 |
| **IV. Па конкурсу советаў на лепшую падрыхтоўку да новага 1934—35 навучальнага года** | | | |
| Для сельсовета . . . . . . | 1 | 3000 | 3000 |
| „ старшынь РВК і заг. райана . . | 3 | 500 | 1500 |
| „ старшынь сельсоветаў . . . | 10 | 300 | 3000 |
| „ культасветных секцый, дэпутацкіх груп і загадчыкаў школ . . . . | 12 | 200 | 2400 |
| **V. Па конкурсу на лепшы горсавет па дапамозе чыгуначнаму транспарту:** | | | |
| Для старшынь горсаветаў і пасёлкавых советаў . . . . . . . | 3 | 500 | 1500 |
| „ кіраўнікоў чыгуначных секцый і дэпутацкіх груп . . . . . | 10 | 300 | 3000 |
| „ актыва . . . . . . . | 15 | 200 | 3000 |
| **VI. Па конкурсу на лепшы гарадскі і пасёлкавы советы па захаванню жыллёвага фонда і добрабыту:** | | | |
| Для старшынь гарадскіх і пасёлкавых советаў . . . . . . . | 3 | 500 | 1500 |
| „ кіраўнікоў секцый і дэпутацкіх груп . | 10 | 300 | 3000 |
| „ актыва . . . . . . . | 15 | 200 | 3000 |
| „ газет . . . . . . . | 1 | 3000 | 3000 |
| „ „ . . . . . . | 1 | 2000 | 2000 |
| „ „ . . . . . . . | 1 | 1000 | 1000 |
| Разам . . . . | 157 | — | 65800 |

2. Даручыць т. Бiге дагаварыцца з Галоўдартрансам аб дадатковым водпуску 15000 руб. на ўстанаўленне прэмій імя ЦВК на лепшы совет па дарожнаму будаўніцтву.

3. Устанавіць 10 пачэсных грамат Прэзідыума ЦВК для узнагароды лепшых фабкомаў, школ, для калгасаў і райкомаў саюза Працасветы, праявіўшых сябе ў конкурсе советаў на лепшую падрыхтоўку да новага навучальнага года.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР А. ЧАРВЯКОЎ.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР М. ЛЕЎКОЎ.

3 *чэрвеня* 1934 *г.*
*г. Менск.*
№ 86-II—4

---

НКФ СССР
Сектар выканання
ДЗЯРЖБЮДЖЭТА
2|VII 1934 г.
№ ФБІ 66

**Начальніку фінансава-бюджэтнай інспекцыі**

........................................................................

**Гор.** ........................................................

Пастановай ЦВК Саюза ССР ад 17 мая аб'яўлена правядзенне ў перыяд ліпень-кастрычнік 1934 г. Усесаюзнага конкурса-спаборніцтва на лепшы сельсовет, лепшую фінансавую секцыю і рэўкамісію па фінансавай рабоце іх.

Конкурс мае вялікае значэнне. Ён павінен забяспечыць узмацненне фінансавай гаспадаркі сельсоветаў, перабудову іх работы ў адпаведнасці з рашэннямі XVII партз'езда.

Гэты конкурс сваёй асноўнай мэтай ставіць далейшае палепшанне якасці усёй фінансавай работы на вёсцы, забеспячэнне выканання фінплана і ўзняцце фінансавай работы на ўзровень важнейшых гаспадарча-палітычных задач.

Паспяховае правядзенне конкурса магчыма толькі пры правільнай яго арганізацыі ў кожным раёне і сельсовеце, пры ўмовах сістэматычнага кіраўніцтва ходам конкурса і дапамогі ў яго правядзенні сельскім советам з боку вышэйстаячых фінорганаў.

Таму вельмі важна забяспечыць кіраўніцтва і дапамогу сельрэўкамісіям з боку фінорганаў па лініі ФБІ і спецінструктароў як у перыяд арганізацыі, так і, асабліва, у час правядзення конкурса

У рэзультаце конкурса ў адносінах работы рэўкамісій павінны быць забяспечаны:

1. Правядзенне суцэльнай рэвізіі фінансавай работы кожнага сельсовета не менш аднаго разу ў квартал; старанная праверка правільнасці прыходвання і расходвання грашовых сродкаў, учоту

і захавання каштоўных папер, бланкаў і квіткоў, правільнасці вядзення рахункаводства па бюджэту асабовых рахункаў па сельгасналогу, самаабкладанню і акладному страхаванню, перачняў паступленняў, разліковых ведамасцей па пазыцы, правільнасці выдачы квіткоў плацельшчыкам, своечасовасці раздачы аплачаных аблігацый падпісчыкам, праверка зборшчыкаў грошай, правільнасці і своечасовасці здачы сабраных грошай ў касы Дзяржбанка або ў ашчадкасы, праверка ўчоту, захавання і рэалізацыі апісанай маёмасці.

2. Правядзенне штомесячных рэвізій па асобных галінах фінансавай работы сельсовета; праверка наяўнасці касы, правільнасці прыёму грошай, своечасовасці і паўнаты здачы ўласных сродкаў, у асаблівасці, сродкаў дзяржаўнага і вышэйстаячых мясцовых бюджэтаў у касы Дзяржбанка або ў ашчадкасы, праверка правільнасці ўчоту і захавання квіткоў; праверка зборшчыкаў грошай, праверка непасрэдна ў плацельшчыкаў (падворна) правільнасці выдачы ім квіткоў.

3. Працаздольнасць састава рэвізійнай камісіі: актыўная работа кожнага члена рэвізійнай камісіі, замена ўстаноўленым парадкам непрацаздольных членаў рэўкамісіі лепшымі ўдарнікамі-калгаснікамі і калгасніцамі.

4. Прыцягненне да работы рэвізійнай камісіі калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў і асвятленне матэрыялаў рэвізіі ў друку, прыцягненне да правядзення рэвізіі членаў фінансавай і с.-г. секцыі сельсовета, комсамольцаў, з даручэннем ім асобных самастойных заданняў па праверцы расходаў ў школах, больніцах і інш. установах, праверка сельскіх зборшчыкаў і т. д., даклады аб рэзультатах рэвізій на пашыраных паседжаннях сельсовета з прыцягненнем усяго сельскага актыва; асвятленне рэзультатаў рэвізій у насценным друку, палітаддзельскай і раённай газеце; адчотныя даклады перад выбаршчыкамі.

5. Своечасовае выкананне паказанняў райфінаддзела і яго інструктароў аб рабоце рэвізійных камісій.

6. Сістэматычная праверка рэвізійнай камісіяй своечасовасці выканання сельсоветам прапаноў па рэзультатах рэвізій, вытвараных інструктарамі райфа і рэўкамісіяй.

7. Даклады рэвізійнай камісіі ў райвыканкоме аб рэзультатах рэвізіі не менш аднаго разу ў паўгоддзе, неадкладнае давядзенне да ведама райвыканкома і райфінаддзела аб усіх выяўленных рэўкамісіяй непарадках і злоўжываннях у сельсовеце з паказаннем канкрэтных вінаватых.

Паспяховае выкананне сельскімі рэўкамісіямі гэтых паказчыкаў залежыць ад актыўнага ўдзелу ў конкурсе ФБІ і райспецінструктароў, якія павінны з'явіцца арганізатарамі ўсёй работы сельсоветаў на конкурсу і аказаць ім шырокую палітычную дапамогу.

Таму ФБІ НКФ СССР прапануе Вам:

**1. Па лініі ФБІ.**

1. Уключыць сваіх адказных прадстаўнікоў у камісіі па правядзенню конкурса, арганізуемыя пры фінорганах, і распрацаваць планы канкрэтных мерапрыемстваў па конкурсу сельрэўкамісій па лініі ФБІ.

2. Накіраваць у раёны і на вёскі работнікаў ФБІ для праверкі ўдзелу райспецінструктароў у конкурсе, арганізацыі гэтай работы і інструктажа.

3. Арганізаваць сумесна з саюзам ФБР пасылку на вёску на вызначаны тэрмін работнікаў ФБІ для практычнай дапамогі сельрэўкамісіям на мясцах. Пасылаемых людзей патрэбна загадзя падробна інструктаваць, падтрымліваць з імі сувязь у час прабывання іх на вёсцы, наглядаць за іх працай і патрабаваць адчоты па звароце іх з камандыроўкі.

4. Забяспечыць бесперапыннае аперацыйнае кіраўніцтва ўдзелам райспецінструктароў у конкурсе рэўкамісій, практыкуючы выклікі іх для дакладаў па гэтаму пытанню ў камісіі пры фінорганах.

5. Правесці адпаведную падрыхтоўку пытанняў конкурса ў рэспубліканскім, краявым і абласным друку.

6. Даць адпаведныя дырэктывы райспецінструктарам.

**II. Па лініі райспецінструктароў.**

1. Скласці пад кіраўніцтвам загадчыка райфа план мерапрыемстваў па абслугоўванню сельскіх рэўкамісій.

2. Актывізаваць у працэсе конкурса работу сельскіх рэўкамісій шляхам:

а) арганізацыі інструкцыйных нарад з сельскімі рэвізійнымі камісіямі аб значэнні агляду і аб ролі ў гэтым аглядзе рэвізійных камісій;

б) арганізацыі вопытных рэвізій сельсоветаў з прыцягненнем членаў другіх рэўкамісій;

3. Актыўна ўдзельнічаць у выяўленні адбору лепшых рэўкамісій і пераабранні непрацуючых рэўкамісій.

4. Арганізаваць даклады старшынь рэўкамісій на паседжаннях прэзідыумаў РВК і пленумах сельсоветаў.

5. Скарыстаць конкурс для праверкі выкананых і рэалізацыі раней вынесеных пастаноў рэўкамісій.

6. Правесці праверку праходжання спраў у следчых і судовых органах аб раней ускрытых злоўжываннях у с.-с., шляхам зносін з райпракуратурай забяспечыць неадкладны разгляд іх у судовых органах.

**III. Па лініі сельскіх рэўкамісій.**

1. Выкананне рэўкамісіямі пералічаных вышэй паказчыкаў работы іх.

2. Забяспечыць якасць рэвізійнай работы рэўкамісій.

3. Арганізаваць у сувязі з конкурсам шырокую масава-раз'яснільную работу у калгасах, соўгасах і МТС.

Кіраўнік сектара выкан.
Дзяржбюджэта МАЛАХОЎСКІ.

За кіраўніка ФБІ ЕРАМАСАЎ.

---

# ПАСТАНОВА № 147
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

13 *ліпеня* 1934 г. *г. Менск.*

### Аб ітогах выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва і дзярждаходаў за II квартал 1934 г.

Народны камісарыят фінансаў БССР адзначае, што план мабілізацыі сродкаў насельніцтва II квартала па асноўных плацяжах фінансавай сістэмы выканан на 97,4 проц., а з улікам паявых узносаў спажывецкай кааперацыі (па звестках на 15-VI)—на 93,5 проц. Квартальнае заданне па дзярждаходах выканана на 96,3 проц.

Поўнасцю выканалі у II квартале свае фінансавыя абавязацельствы і якія перавыканалі як план мабілізацыі сродкаў насельніцтва, так і план паступлення дзяржаўных даходаў наступныя: Чырвонаслабодскі (заг. райфа т. Якуцік), Асвейскі (заг. райфа т. Кулікаў), Старобінскі (заг. райфа т. Ганін), Менскі (заг. райфа т. Залескі), Жыткавіцкі (заг. райфа т. Гінько), Слуцкі (заг. райфа т. Валіцкі), Касцюковіцкі (заг. райфа т. Новікаў), Ст.-Дарожскі (загадчык райфа т. Доўбня), Чэрыкаўскі (заг. райфа т. Шапшын), Барысаўскі (заг. райфа т. Сцельмашок), Бярэзінскі (заг. райфа тав. Лабачоў).

Райфінаддзелы большасці астатніх раёнаў не забяспечылі такойжа высокай якасці работы па выкананню плана II квартала, дапусцілі значнае недавыкананне плана па паасобных участках, а па раду раёнаў і поўны зрыў усяго плана.

Асабліва недапушчальным з'яўляецца значная нядоімачнасць, дапушчаная радам раёнаў па культзбору: раёны—Бабруйскі, Бешанковіцкі, Бягомльскі, Веткаўскі, Горацкі, Жлобінскі, Дубровенскі, Крупскі, Лёзненскі, Лепельскі, Лоеўскі, Магілеўскі, Расонскі, Талачынскі і Тэрахоўскі; квартальнае заданне па культзбору гэтыя раёны выканалі менш, чым на 60 проц., недадаўшы дзяржаве па гэтаму плацяжу 1,3 млн. руб.

План I паўгоддзя выканан па БССР па мабілізацыі сродкаў насельніцтва на 87,9 проц., у тым ліку па абавязковых плацяжах на 95,8 проц., па добраахвотных на 80 проц. і па плацяжах аграмадажанага сектара на 93,1 проц.

У выніку недавыканання плана першых двух кварталаў, дзяржаве недададзена за I паўгоддзе па асноўных плацяжах плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва 10,5 млн. руб. і па дзярждаходах—31,3 млн. руб. Гэта стварыла надзвычайную напружанасць пры выкананні бюджэта II квартала і выклікала неабходнасць скарыстання на задавальненне патрэб мясцовых бюджэтаў значных сум дзяржаўнага бюджэта пры наяўнасці вялікай запазычанасці насельніцтва па плацяжах, якія ўваходзяць у даходную частку мясцовых бюджэтаў, а ў паасобных раёнах з'явілася прычынай недапушчальнай зацяжкі ў выплаце заработнай платы, несвоечасовасці фінансавання і разгортвання вызначанага па плану будаўніцтва.

Асноўнымі прычынамі недавыканання плана II квартала і ўсяго 1 паўгоддзя з'явіліся:

1. Рэзкае паслабленне арганізацыйна-масавай работы ва ўсіх звеннях фінансавага апарата і апарата ашчадных кас. Аб'яўлены ў II квартале ЦК КП(б)Б паход за высокую якасць фінансавай работы райфінаддзеламі і райашчадкасамі не быў даведзен да нізавых звенняў—сельсоветаў, іх фінансавых секцый, нізавых камсодаў, нізавых прафесіянальных арганізацый і шырокіх мас фінансавага актыва.

2. Паслабленне пастаяннай дзелавой сувязі фінансавых органаў з профсаюзнымі, комсамольскімі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, друкам і амаль што поўная адсутнасць на мясцах работы з фінансавым актывам.

3. Зусім недастатковы аперацыйны нагляд з боку адпаведных кіраўніцтваў наркамата за работай у адстаючых па выкананню плана раёнаў. У прыватнасці, начальнікі кіраўніцтваў—масавых плацяжоў т. Эйдлін, дзяржданходаў т. Фельгін, АК і ДК т. Варшаўскі і вык. аб. начальніка кіраўніцтва фінансавання народнай гаспадаркі т. Дрывоцінаў не выканалі прамой дырэктывы наркома аб арганізацыі спецыяльнай дапамогі раёнам, якія на працягу 3-х год ні разу не выканалі плана. Гэтыя таварышы асабіста на працягу ўсяго квартала ні разу не выязджалі ў прымацаваныя да іх раёны.

Выходзячы з адзначаных ітогаў выканання плана II квартала і ўлічваючы задачы III квартала, Народны камісарыят фінансаў БССР пастанаўляе:

1. У сувязі з невыкананнем радам раёнаў папярэджання наркома фінансаў СССР т. Грынько і старшыні СНК БССР т. Галадзеда аб поўнай ліквідацыі у II квартале нядоімкі па культзбору, увайсці у Совет народных камісараў БССР з хадайніцтвам аб скарачэнні бюджэтаў наступных раёнаў:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Магілеўскага | на | 150 | тыс. | руб. | Быхаўскага | на | 60 | тыс. | руб. |
| Бабруйскага | „ | 100 | „ | „ | Гарадоцкага | „ | 40 | „ | „ |
| Веткаўскага | „ | 60 | „ | „ | Жлобінскага | „ | 40 | „ | „ |
| Горацкага | „ | 50 | „ | „ | Клімавіцкага | „ | 30 | „ | „ |
| Лёзненскага | „ | 50 | „ | „ | Лоеўскага | „ | 30 | „ | „ |
| Парыцкага | „ | 50 | „ | „ | Мсціслаўск. | „ | 30 | „ | „ |
| Сіроцінскага | „ | 40 | „ | „ | Расонскага | „ | 30 | „ | „ |
| Чачэрскага | „ | 15 | „ | „ | Талачынскага | „ | 75 | „ | „ |
| Шклоўскага | „ | 60 | „ | „ | Чаускага | „ | 40 | „ | „ |
| Чэрвеньскага | „ | 20 | „ | „ | | | | | |

Адначасова прасіць Совет народных камісараў восстанавіць скарочаныя сумы за невыкананне плана мабілізацыі сродкаў I квартала і аб'екты будаўніцтва па бюджэтах—Асіпавіцкага раёна на 50 тыс. руб. і Бялыніцкага на 40 тыс. руб., прымаючы пад увагу, што гэтыя раёны пасля скарачэння іх бюджэтаў забяспечылі поўнае выкананне плана мабілізацыі сродкаў II квартала.

2. Абавязаць Бюджэтнае Кіраўніцтва і ФБІ ў III квартале правесці поўнае абследванне фінансавай работы ў Бешанковіцкім, Лёзненскім, Лоеўскім, Шклоўскім, Быхаўскім, Терахоўскім, Сіроцінскім, Дубровенскім, Жлобінскім раёнах і падрыхтаваць пастаноўку дакладаў кіраўніцтва гэтых раёнаў у дырэктыўных кіруючых органах БССР.

3. За зрыў плана II квартала загадчыкам Лёзненскага райфа тав. Аронаву, Шклоўскага—тав. Саксонаву і Расонскага—тав. Шыманцу абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

Адзначыць, што загадчык Бешанковіцкага райфа тав. Шаболтас за сістэматычны зрыў плана пастановай наркамфіна ад 8 ліпеня гг. знят з працы і прыцягнут да судовай адказнасці і загадчык Жлобінскага райфа т. Добравольскі за зрыў плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва і правал учота аб'ектаў абкладання пастановай ЦК КП(б)Б ад 7 ліпеня гг. знят з пасады загадчыка райфа.

4. Начальнікам кіраўніцтваў: масавых плацяжоў — т. Эйдліну, дзярждаходаў — т. Фельгіну, АК і ДК — т. Варшаўскаму і в. аб. начальніка кіраўніцтва фінансавання народнай гаспадаркі т. Дрывоцінаву за невыкананне спецыяльнага даручэння Наркома аб аказанні дапамогі 6-ці адстаючым раёнам паставіць на від, папярэдзіўшы іх, што ў выпадку непрыняцця з іх боку мер, забяспечваючых выкананне плана па гэтых раёнах у III квартале, да іх будуць ужыты больш суровыя меры спагнання.

5. Для забеспячэння паспяховага выканання плана мабілізацыі сродкаў насельніцтва і дзярждаходаў у III квартале:

а) абавязаць начальнікаў кіраўніцтваў: масавых плацяжоў—тав. Эйдліна, дзярждаходаў—тав. Фельгіна, дзяржстраха—тав. Орсіка, кіраўніцтва АК і ДК—тав. Варшаўскага і тав. Хмеля безадкладна прыняць меры па разгортванню аб'яўленага ў II квартале паходу за высокую якасць фінансавай работы і ўключэння ў паход усіх нізавых звеняў—фінансавых органаў, саветаў, іх фінансавых секцый, камсодаў, грамадскіх кантрольных пастоў; у прыватнасці папулярызаваць устаноўленую газетай „Экономическая жизнь“ чырвоную дошку на лепшы сельскі совет, арганізаваўшы ўчот спаборнічаючых саветаў і забяспечыўшы своечасовае прадстаўленне кандыдатаў для занясення на Усесаюзную чырвоную дошку.

Прасіць ЦП Саюза ФБР прыняць адпаведныя меры актывізацыі масавай работы па лініі саюза фінансава-банкаўскіх работнікаў;

б) Адзначаючы, што міжраённае і ўнутрыраённае соцыялістычнае спаборніцтва з'яўляецца выпрабаванай, забяспечыўшай БССР у мінулым найлепшымі вынікамі выканання плана формай аргмасавай работы, абавязаць райфінаддзелы і Кіраўніцтва наркамата з самага пачатку III квартала разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва паміж раёнамі, сельсоветамі, прадпрыемствамі, калгасамі і паасобнымі ўдарнікамі фінансавага фронта з такім разлікам, каб на прадстаячым 5 верасня Усебеларускім злёце ўдарнікаў фінансавага фронта падагуліць ход і вынікі соцспаборніцтва;

в) прасіць раённыя кіруючыя органы перадавых раёнаў, перавыканаўшых у II квартале план мабілізацыі сродкаў насельніцтва і плацяжы аграмаджанага сектара, быць ініцыятарамі міжраённага соцыялістычнага спаборніцтва на лепшае выкананне фінплана III квартала;

г) прасіць рэдакцыю газеты „Звязда“ прыняць грамадска-палітычнае кіраванне ходам спаборніцтва раёнаў і сельсоветаў на лепшае выкананне плана III квартала, арганізаваўшы сістэматычнае асвятленне хода соцспаборніцтва ў друку.

д) абавязаць загадчыкаў гарфа і райфа пасля праведзеных у

ліпені раённых злётаў ударнікаў фінансавага фронта не паслабляць сувязі з фінансавым актывам, а замацоўваць і актывізаваць яго работу шляхам праверкі выканання кожным ударнікам узятых на злёце абавязацельстваў;

е) лічыць неабходным штодэкадна, адначасова з дакладнай зводкай, састаўляць і дасылаць цэнтральным арганізацыям, газетам і раёнам кароткі інфармацыйны бюлетэнь ходу соцспаборніцтва. Адказнасць за састаўленне ўскласці на тт. Нісневіча, Хмеля і Заусцінскага.

6. Тав. Шлык ажыццяўляць сістэматычны кантроль за выкананнем кіраўніцтвамі і паасобнымі работнікамі Наркамата гэтай пастановы і прынятых у выкананне гэтай пастановы мерах і праведзеных мерапрыемствах штодэкадна дакладваць наркому па устаноўленых 4, 14 і 24 кожнага месяца спецыяльных нарадах па выкананню фінплана.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА № 122
# Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*8 ліпеня* 1934 *года* *г. Менск*

## Аб ітогах праверкі брыгадай Наркамфіна правядзення налогавага законадаўства і спагнання плацяжоў па Талачынскаму раёну

Заслухаўшы даклад брыгады Наркамфіна (тт. Дыманта, Рубіна і Юрэвіча) аб ітогах праверкі правядзення налогавага законадаўства і спагнання абавязковых плацяжоў па Талачынскаму раёну, Наркамфін БССР адзначае, што апартуністычныя разважанні з боку паасобных кіруючых работнікаў Талачынскага раёна аб пераабкладанні налогамі гэтага раёна з'яўляюцца абсалютна беспадстаўнымі, што прывяло да зрыва выканання фінплана, мабілізацыі сродкаў насельніцтва, даходнай часткі бюджэта, што ў сваю чаргу прывяло да вялікай запазычанасці і перабою ў зарплаце рабочым, служачым і асабліва настаўніцтву, да зрыву гаспадарчага, культурна-асветнага і дарожнага будаўніцтва ў раёне. Дапушчаны асобныя памылкі як пераабкладанне асобных гаспадарак, так і недаабкладанне, якія да гэтага часу не былі выпраўлены.

Не гледзячы на неаднаразовыя дырэктывы вышэйшых парторганаў, заг. райфа т. Івашчанка, замест непасрэднай адказнай працы ў частцы правядзення налогавага законадаўства і спагнання плацяжоў, разгортвання аргмасавай работы па добраахвотных плацяжах (пазыка, уклады ў ашчадкасы, паявыя накапленні кааперацыі), скарыстоўваўся раённымі кіруючымі органамі, галоўным чынам па розных іншых кампаніях.

Пры нездавальняючым кіраўніцтве фінансавай работай з боку раённых кіруючых органаў, апарат райфа Талачынскага раёна падабран і ўкамплектаван зусім нездавальняюча.

У рэзультаце ўсяго гэтага, Талачынскі раён быў і застаецца ў

хвасце самых адстаючых раёнаў БССР па выкананню фінплана і бюджэта.

Выходзячы з адзначанага, народны камісарыят фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Адобрыць вывады брыгады Наркамфіна па праверцы правядзення налогавага законадаўства і спагнання плацяжоў па Талачынскаму раёну і абавязаць Талачынскі райфа пад персанальную адказнасць загадчыка райфа тав. Івашчанка ў двухдэкадны тэрмін ліквідаваць усе адзначаныя брыгадай недахопы ў правядзенні налогавага законадаўства і спагнання плацяжоў па раёну.

2. За дапушчэнне скрыўленняў у радзе месц пры правядзенні налічення сельгасналога ў 1933 годзе па Талачынскаму раёну, быўш. загадчыку райфа тав. Пастарнаку і за непрынятцце мер выпраўлення вядомых памылак і перагібаў, сучаснаму загадчыку Талачынскага райфа тав. Івашчанка, абвясціць суровую вымову з папярэджаннем, што калі ў іх далейшай працы як загадчыкаў райфа па налогах будуць дапушчаны памылкі, да іх будуць ужыты асабліва жорсткія меры ўздзейнічання.

3. Прыняць да ведама пастанову аб'яднанага паседжання бюро РК КП(б)Б і прэзідыума РВК Талачынскага раёна ад 5 ліпеня бягучага года аб тым, „што дадзеныя раёну заданні па сельскіх плацяжах з'яўляюцца зусім рэальнымі і пры поўным іх выкананні меўся зусім дастатковы рэзерв для выпраўлення парушэнняў, дапушчаных пры правядзенні плацяжоў у паасобных месцах“.

4. Прасіць рэдакцыю газеты „Калгаснік Талачыншчыны“ разбіць на старонках друку апартуністычныя разважанні аб перааб-кладанні раёна сельгасналогам і павесці рашучую барацьбу з гніла-ліберальнымі адносінамі да справы спагнання абавязковых плацяжоў па Талачынскаму раёну.

5. Прасіць РК КП(б)Б і РВК Талачынскага раёна у бліжэйшыя дзве дэкады дабіцца рашучага пералому ў выкананні фінплана, мабілізацыі сродкаў насельніцтва і мясцовых бюджэтаў раёна, забяспечыць поўнае спагнанне культзбору да 15-га ліпеня, забяспечыць поўнае і добраякаснае правядзенне ўчоту аб'ектаў абкладання па с.-г. налогу і асабліва жывёлы, забяспечыць поўнае і правільнае спагнанне ўсіх абавязковых плацяжоў у другім паўгоддзі бягучага года.

6. Абавязаць кіраўніцтва масавых плацяжоў Наркамфіна БССР праз месяц праверыць выкананне гэтай пастановы, пастановы аб'яднанага паседжання РК КП(б)Б і РВК Талачынскага раёна і вывадаў брыгады і падрыхтаваць пастаноўку даклада кіруючых органаў Талачынскага раёна у цэнтральных кіруючых установах.

Гэту пастанову апублікаваць у друку.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

# ПАСТАНОВА
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*7 ліпеня* 1934 *г.* *г. Менск.*

Заслухаўшы даклады кіраўніцтва дзярждаходаў т. Фельгіна і інспектароў дзярждаходаў гаррайфа: Менскага т.—Любіча, Барысаўскага—т. Ананіча, Сенненскага—т. Федотава, Бешанковіцкага—т. Зубца, Уваравіцкага—т. Новікава, Народны Камісарыят Фінансаў БССР адзначае, што работа па дзярждаходах у Менскім і Барысаўскім райгарфа з'яўляецца здавальняючай; у Сенненскім райфа, не гледзячы на маючыяся палепшанні, яшчэ нездавальняючая, у Бешанковіцкім і Уваравіцкім райфа—зусім нездавальняючая, асабліва ў частцы своечасовай праверкі налогавай адчотнасці (да гэтага часу не скончана праверка гадавых адчотаў за 1933 год), дрэнная пастаноўка акладнога рахункаводства (Бешанковіцкі раён), не прадстаўлен адчот па прыбытковаму налогу за 1 квартал і планы паступленняў дзярждаходаў Бешанковіцкім, Сенненскім і Уваравіцкім райфа.

Аналізамі балансаў гэтых райфа не займаліся, работа па таваараабароту не праводзіцца, таксама адсутнічае масавая работа па дзярждаходах, зусім няма грамадскіх інспектароў і кантрольных пастоў.

Такая нездавальняючая пастаноўка работы па дзярждаходах аб'яснеяцца тым, што загадчыкі гэтых райфа не ўдзяляюць ўвагі справе дзярждаходаў, адрываюць інспектароў дзярждаходаў на іншыя кампаніі у той час, калі ёсць прарыў у рабоце па дзярждаходах.

Выходзячы з гэтага НКФ БССР пастанаўляе:

1. За незабеспячэнне належнай пастаноўкі работы па дзярждаходах, невыкананне пастаноў Наркамфіна БССР ад 11/II, 13/IV і 4/V 1934 г. і адрыў інспектароў на іншыя работы, загадчыкам Бешанковіцкага, Сенненскага і Уваравіцкага райфа і інспектарам дзярждаходаў гэтых райфа паставіць на від з папярэджаннем.

2. Інспектара дзярждаходаў Жыткавіцкага райфа т. Гашко, які не з'явіўся для даклада, але, як відаць з матэрыялу абследвання, праваліў работу па дзярждаходах і ў далейшым не можа забяспечыць гэту работу,—з работы зняць.

Прапанаваць начальніку кіраўніцтва дзярждаходаў т. Фельгіну ў бліжэйшы час паслаць інспектара дзярждаходаў у Жыткавіцкі раён.

3. Прапанаваць усім загадчыкам райфа ўдзяліць максімум увагі дзярждаходам, як асноўнай крыніцы прыбытковай часткі бюджэта і забяспечыць чоткую пастаноўку гэтай работы.

Катэгарычна забараніць адрываць інспектароў дзярждаходаў на іншыя работы, асабліва ў той час, калі не забяспечана добрая пастаноўка работы і выкананне плана па дзярждаходах.

4. Для забеспячэння выканання плана дзярждаходаў III квартала і ўсяго гадавога плана, прапанаваць загадчыкам гаррайфа і інспектарам дзярждаходаў, якія да гэтага часу не скончылі пра-

верку гадавых адчотаў за 1933 год і 1 квартал 1934 г., скончыць гэту праверку да 1/VIII г. г. і да 1/X-34 г. праверыць 50 проц. квартальных адчоту II квартала.

а) Абавязаць загадчыкаў гаррайфа і інспектароў дзярждаходаў ні ў якім разе не дапускаць стварэння нядоімачнасці, прымяняючы да неплацельшчыкаў самыя суровыя меры спагнання, прадугледжаныя законам; б) прыцягваць да адказнасці тых, якія сістэматычна зрываюць выкананне плана дзярждаходаў і ўтойваюць звароты ад абкладання; в) недапушчаць прыёму пратэрмінаваных плацяжоў без налічэння пені; г) строга саблюдаць дысцыпліну як па своечасоваму атрыманню адчоту ад плацельшчыкаў, так па своечасоваму прадстаўленню ўсіх патрабуемых адчотаў у НКФБ.

5. Адзначаючы недастатковую масавую работу па дзярждаходах, лічыць неабходным правесці на працягу Ш квартала агляд работы грамадскіх інспектароў і фінансава-кантрольных пастоў, дабіўшыся пастаноўкі іх дакладаў перад прафарганізацыямі адпаведных прадпрыемстваў і пераабранні непрацаздольных грамадскіх інспектароў і фінансава-кантрольных пастоў.

Абавязаць усіх гаррайфа абгаварыць і прыняць выклік разанскіх раённых арганізацый на лепшую пастаноўку работы і выкананне плана дзярждаходаў III і IV кварталаў. Вакол правядзення гэтай работы і для лепшай арганізацыі яе—арганізаваць між асобнымі райгарфа, арганізацыямі, фінансава-кантрольнымі пастамі і грамадскімі інспектарамі соцспаборніцтва.

Усю работу па дзярждаходах асвятляць у раённым рэспубліканскім друку і газеце „Экономическая жизнь“.

6. Абавязаць кіраўніцтва дзярждаходаў ўстанавіць непасрэднае назіранне за выкананнем гэтай пастановы ўсімі райгарфа, для чаго камандыраваць у раёны работнікаў кіраўніцтва для інструктажу, дапамогі і праверкі пастаноўкі работы па дзярждаходах і выкананню дырэктыў Наркамфіна БССР і СССР.

7. За лепшае правядзенне 2-дэкадніка, пастаноўкі ўсёй работы і выкананне плана дзярждаходаў II квартала прэміраваць:

Ст. інспектара Менгарфа т. Любіча, старшыню МК ФБР—інспектара дзярждаходаў Менгарфа т. Сакалоўскага па 900 руб. кожнага і граматамі НКФ БССР.

Ст. інспектара Барысаўскага райфа т. Ананіча гадзіннікам і месцам у дом адпачынку.

За добрую пастаноўку акладнога рахункаводства, прэміраваць бухгальтароў акладнога рахункаводства Менскага гарфа Кеніну і Бабарыку, Барысаўскага райфа т. Гурэвіч па 100 руб. кожную і граматамі НКФ БССР „Ударніку фінфронта“.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

# ПАСТАНОВА
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*9 ліпеня* 1934 *г.* *г. Менск.*

Заслухаўшы даклады бюджэтнага кіраўніцтва, бюджэтных інспектароў райфа: Оршанскага—т. Караткевіча, Чэрвеньскага—тав. Зівістоўскага, Веткаўскага—т. Драмача, інспектара-рэвізора Дзержынскага райфа—т. Вяроўкіна, старшыні Апчацкага с.-с. Менскага раёна—т. Клеўко і рахункавода В-Вогненскага сельсовета Барысаўскага раёна—т. Мазоль, Народны Камісарыят Фінансаў БССР адзначае:

а) У многіх раёнах з прычыны недаацэнкі гаспадарча-палітычнага значэння мясцовых бюджэтаў, састаўленне гэтых бюджэтаў не скарыстана як сродак для мабілізацыі актыва і шырокай грамадскасці на выкананне народна-гаспадарчых задач і фінплана; бюджэты састаўлены ў радзе раёнаў са значным спазненнем, асабліва па сельскіх советах, не папулярызаваны сярод актыва, грамадскасці і працоўных; у многіх раёнах сельскія бюджэты састаўляюць райфа без удзелу нават работнікаў сельсоветаў (Бешанковіцкі, Брагінскі, Гарадоцкі, Веткаўскі Мсціслаўскі, Пухавіцкі, Тэрахаўскі і інш. раёны).

У паасобных раёнах дапушчана, апрача таго, грубае парушэнне дырэктыў СНК па кантрольных лічбах мясцовых бюджэтаў у сэнсе павялічэння лімітаў на капітальнае будаўніцтва, адміністрацыйна-кіраўнічых расходаў і інш; за кошт павялічэння датацыі з рэспубліканскага фонда мясцовых бюджэтаў, пры памяншэнні ўласных даходаў (Талачынскі, Хойніцкі, Лоеўскі і інш. раёны).

б) Зрыў выканання даходнай часткі мясцовых бюджэтаў па многіх раёнах, з прычыны поўнага правала плана дзярждаходаў і і мабілізацыі сродкаў насельніцтва і зусім нездавальняючая работа па забеспячэнню мясцовых даходаў, прывялі да зрыву фінансавання капітальнага будаўніцтва, сістэматычных перабояў у выплаце зарплаты рабочым на будаўніцтве, медработнікам і асабліва настаўніцтву (Бешанковіцкі, Лёзненскі, Лоеўскі, Шклоўскі, Быхаўскі, Тэрахаўскі, Сіроцінскі, Жлобінскі, Дубровенскі, Крупскі, Веткаўскі, Талачынскі і інш. раёны).

Запазычанасць настаўніцтву па гэтых раёнах ліквідавана са значным спазненнем, і толькі пасля аказання значнай дапамогі з рэспубліканскіх сродкаў і за кошт дзяржаўнага рэзерва.

в) Пры зусім дрэнным выкананні фінплана і бюджэта ў паасобных раёнах дапушчана перарасходванне адміністрацыйна - кіраўнічых расходаў і парушэнне ставак дзяржнармавання (Веткаўскі, Талачынскі, Полацкі, Крупскі і інш. раёны).

г) У большасці раёнаў фінансаванне вызначаных па плану мерапрыемстваў праводзіцца без сістэматычнай праверкі фактычнага становішча сеткі ўстаноў і кантынгентаў.

д) Нараду з узмацненнем рэвізійнай работы па раду раёнаў Менскі, Аршанскі, Капыльскі, Суражскі і інш.), у большасці раёнаў становішча з рэвізіямі фінансавай работы сельскіх советаў ас-

таецца нездавальнаючым, асабліва па раёнах: Горацкаму, Буда-Кашалёўскаму, Смалявіцкаму, Лепельскаму, Брагінскаму, Веткаўскаму, Старобінскаму, Крупскаму і Талачынскаму.

У рэзультаце зусім нездавальняючай работы раду інструктароў - рэвізораў і адсутнасці сталага кантроля за іх работай, бяздзейнасці рэвізійных камісій і фінсекцый у большасці з паказаных раёнаў, не забяспечана выкананне пастаноў ЦВК і СНК СССР і ЦВК і СНК БССР аб устанаўленні сістэматычнага і чоткага кантроля за правільным і метазгодным скарыстаннем бюджэтных сродкаў і ўпарадкаванні работы сельсоветаў па збору дзяржаўных даходаў

У паасобных раёнах не звяртаецца належнай увагі на падбор інструктароў-рэвізораў,у рэзультаце чаго мелі месца факты злоўжыванняў (Талачынскі раён).

У сувязі з адзначаным, Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць персанальна загадчыкаў райфа, пад непасрэдным кіраўніцтвам раённых кіруючых органаў і на аснове прыцягнення да гэтай справы актыва і шырокай грамадскасці, забяспечыць безумоўнае выкананне фінплана і даходнай часткі мясцовых бюджэтаў.

Абавязаць загадчыкаў райфа ўсіх раёнаў абавязкова ўнасіць на разгляд і зацверджанне раённых выканаўчых камітэтаў квартальныя планы выканання бюджэтаў і увесці ў практыку работы састаўленне касавых планаў сельскімі советамі.

2. Папярэдзіць раённыя выканаўчыя камітэты Бешанковіцкага, Лёзненскага, Лоеўскага, Шклоўскага, Быхаўскага, Терахоўскага Сіроцінскага, Жлобінскага, Дубровенскага, Крупскага, Веткаўскага, Талачынскага раёнаў, што калі імі рашуча не будуць зменены адносіны да бюджэтнай справы і не будзе забяспечана ў бліжэйшы час ліквідацыя дапушчанага прарыва ў выкананні даходнай часткі мясцовых бюджэтаў, Наркамфінам будзе пастаўлена перад СНК БССР пытанне аб скарачэнні бюджэтаў на ўсю суму недабору даходаў.

3. Абавязаць загадчыкаў райфа раёнаў, у якіх дапушчана парушэнне лімітаў на капітальнае будаўніцтва, адміністрацыйна-кіраўнічыя расходы, сетка ўстаноў і сумы зацверджанага фонда рэгулявання мясцовых бюджэтаў, у дэкадны тэрмін увайсці ў прэзідыум РВК з праектам прапананоў аб выпраўленні дапушчаных парушэнняў планава-фінансавай дысцыпліны пры састаўленні раённага народна-гаспадарчага плана і мясцовага бюджэта. Аб выніках паведаміць Наркамфіну не пазней 1-га жніўня.

Папярэдзіць загадчыкаў райфа аб іх выключнай адказнасці за строгае захаванне ў раёне планава - фінансавай дысцыпліны.

4. Прапанаваць загадчыкам райфа паставіць ўякасці цэнтральнай задачы па ўсёй сваёй рабоце сістэматычнае правядзенне, пры дапамозе раённых арганізацый рэвізій сельсоветаў з тым, каб райфа было абавязкова абрэвізавана не менш 2-3 сельсоветаў кожны месяц і каб кожны сельсовет быў абрэвізаван не менш разу ў год з абавязковым абгаварэннем рэзультатаў рэвізій на паседжаннях РВК.

3 мэтай актывізацыі работы рэвізійных камісій і фінсекцый советаў, усім райфа правесці ў жніўні месяцы нарады старшынь рэ-

візійных комісій і фінсекцый советаў з удзелам фінпастоў і асобных актывістаў па кантролю за правільным і мэтазгодным скарыстаннем сродкаў.

5. Абавязаць загадчыкаў тых райфа, якія не ўкамплектаваны бюджэтнымі інспектарамі і інспектарамі-рэвізорамі, у месячны тэрмін падабраць на гэтыя пасады адпаведных работнікаў, у першую шую чаргу перасоўваючы на пасады бюджэтных інспектароў і інспектароў-рэвізораў правераных па рабоце сакратароў і асабліва рахункаводаў сельскіх советаў.

6. Указаць загадчыкам райфа ўдзяліць максімум увагі падбору ў рабоце інспектароў па бюджэту, інспектароў-рэвізораў і рахункаводаў сельсоветаў, як асноўных работнікаў арганізацыі састаўлення і выканання бюджэтаў і правільнага скарыстання дзяржаўных сродкаў.

Даручыць бюджэтнаму кіраўніцтву і фінансава-бюджэтнай інспекцыі ў канцы ліпеня месяца правесці кустовыя нарады інструктароў-рэвізораў для праверкі іх работы, інструктажа і абгаварэння плана работ па рэвізіях на 2 поўгоддзе 1934 г.

7. Абавязаць бюджэтнае кіраўніцтва правесці перад пачаткам састаўлення мясцовых бюджэтаў на 1935 год (у канцы верасне) кустовыя нарады бюджэтных інспектароў для абгаварэння практычных задач па састаўленню бюджэтаў, асабліва сельсоветамі з удзелам пэўнай колькасці старшынь і рахункаводаў сельсоветаў.

Катэгарычна забараніць райфа састаўляць сельскія бюджэты ў канцылярыях райфа, абавязаўшы іх замест гэтай падмены кіраваць і аказваць шырокую дапамогу сельсоветам у іх самастойным састаўленні і выкананні сельскіх бюджэтаў.

8. Даручыць бюджэтнаму кіраўніцтву і фінансава-бюджэтнай інспекцыі з удзелам кіраўніцтва Дзярждаходаў і масавых плацяжоў зрабіць на працягу III квартала брыгадную праверку выканання планаў дзярждаходаў, мабілізацыі сродкаў і бюджэтаў у Бешанковіцкам, Лёзненскім, Лоеўскім, Шклоўскім, Быхаўскім, Тарахаўскім, Сіроцінскім, Жлобінскім і Дубровенскім раёнах.

9. Для падвышэння кваліфікацыі бюджэтных інспектароў і інструктароў-рэвізораў правесці праз 2 месяцы абавязковую здачу гэтымі асобамі тэхмінімума, увязаўшы яго з праверкай іх работы.

Бюджэтнаму кіраўніцтву распрацаваць праграму тэхмінімуму і даслаць бюджэтным інспектарам і інструктарам-рэвізорам не пазней 20 ліпеня.

10. Абавязаць загадчыкаў райфа безадкладна паставіць перад райвыканкомамі пытанне аб укамплектаванні добра падабранымі рахункаводамі ўсіх сельсоветаў у адпаведнасці з пастановай ЦВК і СНК БССР „Аб упарадкаванні работы с/с па збору дзяржаўных даходаў“. Аб выкананні гэтага паведаміць Народны камісарыят фінансаў не пазней 1-га жніўня гг. з дасылкай спісу рахункаводаў па ўсіх сельсоветах кожнага раёна.

Бюджэтнаму кіраўніцтву ў 3-дзенны тэрмін падрыхтаваць праект паказанняў раёнам аб парадку скарыстання сум, вызначаных у распараджэнне старшынь сельсоветаў на наём работнікаў.

11. Абавязаць райфа правесці на працягу III квартала кароткатэрміновыя курсы-семінары з рахункаводамі сельсоветаў з мэтай інструктажа іх па вядзенню ўчоту і адчотнасці ў сельскіх советах.

12. Адзначаючы паслабленне адчотнай дысцыпліны ў радзе раёнаў па выкананню мясцовых бюджэтаў, папярэдзіць усе райфа, што ў далейшым за несвоечасовае і нядобраякаснае прадстаўленне адчотнасці, у адносінах асоб, вінаватых у гэтым, будуць ужывацца самыя строгія меры спагнання аж да прыцягнення да судовай адказнасці.

13. За добрасумленную работу прэміяваць: бюджэтнага інспектара Оршанскага райфа т. Каранкевіча, інспектара-рэвізора Менскага гарфа т. Шкадзюка і рахункавода Вяліка-Вогненскага сельсовета Барысаўскага раёна т. Мазоль—кожнага па 200 руб. і граматамі НКФ БССР „Ударніку фінансавага фронта".

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА № 123
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

10 *ліпеня* 1934 *г.* *г. Менск*

Адзначаючы нездавальняючую дзейнасць інспектароў-рэвізораў і рэвізійных камісій у большасці раёнаў, Народны камісарыят фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Для праверкі работы інспектароў-рэвізораў за першае поўгоддзе, для інструктавання і разгляду планаў рэвізійнай работы па кожнаму раёну, склікаць кустовыя нарады інспектароў-рэвізораў—у Гомелі 25 ліпеня, у Віцебску—26 і ў—Менску 28-га.

2. Для ўвязкі рэвізійнай работы інспектароў-рэвізораў райфа і рэвізійных камісій пры сельсоветах, лічыць неабходным на кожную кустовую нараду выклікаць праз раённыя фінансавыя аддзелы па 5 старшынь рэвізійных камісій.

3. Даручыць т. Мельнікаву (Бюджэтнае кіраўніцтва) і т. Чэкорскай (Фінансава-бюджэтная інспекцыя) у двухдэкадны тэрмін намеціць паездку інспектароў-рэвізораў і старшынь рэвізійных камісій на адпаведныя кустовыя нарады, распрацаваць план і парадак правядзення кустовых нарад, а т. Елінеўскаму разглядзець план і парадак правядзення кустовых нарад і даць паказанні праз райфа інспектарам-рэвізорам, з якімі адчотнымі матэрыяламі і планамі яны павінны з'явіцца на кустовыя нарады.

4. Бюджэтнаму кіраўніцтву і фінансава-бюджэтнай інспекцыі пасля правядзення кустовых нарад, прадставіць даклад Наркому аб становішчы і рэзультатах рэвізійнай работы инспектароў-рэвізораў і рэвізійных камісій і мерапрыемствах, ужытых на кустовых нарадах на 2-е паўгоддзе бягучага года.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА
# Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

10 *ліпеня* 1934 *г.* *г. Менск*

## Аб становішчы работы па масавых плацяжах

Заслухаўшы даклад начальніка кіраўніцтва масавых плацяжоў т. Эйдліна і інспектароў па масавых плацяжах Талачынскага і Чашніцкага райфа аб іх рабоце, Народны камісарыят фінансаў БССР адзначае:

1. План II квартала па сельскаму культзбору выканан па БССР толькі на 72,9 проц., а па Талачынскаму і Чашніцкаму раёнах яшчэ менш (Талачын—59,9 проц., Чашнікі—60 проц.). Невыкананне плана з'яўляецца вынікам слабасці арганізацыйна-масавай і аперацыйнай работы, адсутнасці бальшэвіцкай барацьбы з боку большасці раёнаў за выкананне плана абавязковых плацяжоў і незразумення імі новай абстаноўкі ў вёсцы.

2. Учот аб'ектаў абкладання і ў прыватнасці жывёлы ў выніку недаацэнкі гаспадарча-палітычнай важнасці гэтага мерапрыемства і дрэннай падрыхтоўкі па раду раёнаў праходзіць зусім нездавальняюча ў тым ліку і па Чашніцкаму раёну, што вымусіла Наркамфін адмяніць учот па раду раёнаў (Чашнікі, Чаўсы, Парычы, Жлобін і часткова Гомель, Лепель, Талачын, Сіроціна).

3. Адчотнасць па масавых плацяжах усё яшчэ знаходзіцца ў дрэнным становішчы. Устаноўленыя законам адчоты прадстаўляюцца ў Наркамфін са значным спазненнем і часта зусім нядобраякасныя. Да гэтага часу за радам раёнаў лічыцца шмат непрадстаўленых адчотаў па масавых плацяжах (Прапойск, Чашнікі, Ветка, Буда-Кашалеўск, Хойнікі, Чачэрск і інш.).

Кіраўніцтва масавых плацяжоў яшчэ не дабілася ўкаранення строгай адчотнасці дысцыпліны сярод інспектароў па масавых плацяжах.

4. Налогавы апарат на месцах няпоўнасцю ўкамплектаван і большасць маючыхся інспектароў па масавых плацяжах састаіць з мала-кваліфікаваных работнікаў. Нават у самім Кіраўніцтве масавых плацяжоў ёсць недакамплект работнікаў (рэвізораў, ст. эканамістаў).

Выходзячы з адзначанага, Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Кіраўніцтва масавых плацяжоў і ўсе гарфа і райфа прыняць усе меры да поўнага спагнання на працягу ліпеня месяца нядоімкі па культзбору, ужываючы да злосных нядоімшчыкаў усе прадугледжаныя законам меры ўздзейнічання.

2. Прапанаваць усім загадчыкам гарфа і райфа неадкладна прааналізаваць вынікі учоту аб'ектаў і далажыць іх прэзідыуму РВК, а Кіраўніцтву масавых плацяжоў па атрыманню рэзультатаў учота ад раёнаў прааналізаваць іх далажыць Наркому не пазней 1-га жніўня.

3. Абавязаць усіх загадчыкаў гарфа і райфа так арганізаваць работу па налічэнню сельгасналога і самаабкладання, каб забяспе-

чыць правільнае і своечасовае налічэнне гэтых плацяжоў без усякіх скрыўленняў і парушэнняў закона і поўнасцю прадставіць усе ўстаноўленыя законам льготы калгасам, калгаснікам і працоўным аднаасобным гаспадаркам.

4. Прапанаваць усім загадчыкам гарфа і райфа поўнасцю выявіць усе кулацкія гаспадаркі для абкладання іх у індывідуальным парадку, а таксама гаспадаркі, злосна невыконваючыя дадзеных ім планаў сяўбы і іншых дзяржаўных абавязацельстваў для падваення ім налогу.

Абавязаць загадчыкаў гарфа і райфа так паставіць гэтую работу, каб папярэдзіць выпадкі абкладання ў індывідуальным парадку працоўных гаспадарак, прыцягваючы да суровай адказнасці вінаватых у гэтым асоб.

5. Абавязаць Кіраўніцтва масавых плацяжоў арганізаваць на працягу 2-й паловы ліпеня месяца праверку ў радзе раёнаў правільнасці налічэння сельгасналога і самаабкладання і своечасовасці ўручэння плацёжных паведамленняў, а ў жніўні месяцы абрэвізаваць не менш 4-5 раёнаў.

6. Абавязаць усіх загадчыкаў гарфа і райфа адначасова з уручэннем плацежных паведамленняў па сельгасналогу і самаабкладанню разгарнуць шырокую агітацыйна-масавую работу за датэрміновую выплату гэтых плацяжоў, забяспечыўшы поўнае і датэрміновае выкананне заданняў III квартала.

7. Прапанаваць усім загадчыкам гарфа і райфа і інспектарам па масавых плацяжах неадкладна прадставіць у Наркамфін усе непрадстаўленыя імі адчоты па масавых плацяжах і ў далейшым прадстаўляць устаноўленую адчотнасць у строга вызначаныя тэрміны.

Абавязаць Кіраўніцтва масавых пляцяжоў штодэкадна прадстаўляць наркому зводку аб непрадстаўленай раёнамі адчотнасці па масавых плацяжах для прыцягнення канкрэтных вінаватых да адказнасці.

8. Паставіць пытанне перад Советам Народных камісараў БССР аб павялічэнні колькасці інспектароў па масавых плацяжах на 20 адзінак з тым, каб у кожным раёне абавязкова быў пастаянны работнік-інспектар па масавых плацяжах.

9. Абавязаць Кіраўніцтва масавых плацяжоў арганізаваць у жніўні—верасні месяцах каротка-тэрміновыя курсы для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі інспектароў па масавых плацяжах і дабіцца, каб да пачатку IV квартала штат інспектароў быў поўнасцю ўкамплектаваны праверанымі і падрыхтаванымі работнікамі. Правесці ў жніўні месяцы праверку тэхмінімуму ведаў інспектарамі масавых плацяжоў.

10. Абавязаць Кіраўніцтва масавых плацяжоў устанавіць жывую сувязь з інспектарамі па масавых плацяжах як шляхам пасылкі сваіх работнікаў у раёны, так і перыядычнага выкліку інспектароў у Кіраўніцтва для даклада аб іх рабоце.

11. Абавязаць начальніка Кіраўніцтва масавых плацяжоў т. Эйдліна ў дэкадны тэрмін прадставіць на зацвярджэнне Нар-

кома рад мерапрыемстваў па паляпшэнню матэрыяльна-бытавых умоў інспектароў па масавых плацяжах і прэміравання інспектароў-ударнікаў.

12. Абавязаць Начальніка Кіраўніцтва масавых плацяжоў т. Эйдліна ў 2-хдзённы тэрмін прадставіць кандыдатуры для запаўнення свабодных вакансій у Кіраўніцтве масавых плацяжоў.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА
# Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*14 ліпеня 1934 г.* *г. Менск.*

## Аб ходзе выканання фінплана і бюджэта і фактах парушэння фінансава-бюджэтнай дысцыпліны ў Крупскім раёне

Заслухаўшы даклад ч. в. а. начальніка Фінансавабюджэтнай інспекцыі т. Чыжэўскага аб ітогах абследвання фінансавай работы ў Крупскім раёне, Народны камісарыят фінансаў БССР адзначае зусім нездавальняючае выкананне фінплана і мясцовага бюджэта-развал фінансавай работы і грубае парушэнне фінансава-бюджэтнай дысцыпліны ў раёне.

Дзякуючы апартуністычнай бяздзейнасці райфа і большасці советаў Крупскага раёна, недапушчальнай недаацэнцы фінансавай работы кіруючых арганізацый раёна, незабяспечана выкананне планаў дзярждаходаў і мабілізацыі сродкаў у мінулым годзе, правален план мабілізацыі сродкаў у гэтым годзе: заданне І квартала выканана на 53,7 проц., ІІ квартала на 57,7 проц., у тым ліку па культжылзбору гадавое заданне выканана на 83 проц., па ўзносах пазыкі 1-га выпуску 2-й пяцігодкі на 69,2 проц., па рэалізацыі пазыкі 2-га выпуску 2-й пяцігодкі ў вёсцы на 52,3 проц., ў тым ліку сярод калгаснікаў на 73,7 проц. і сярод аднаасобнікаў на 9,6 проц.

У сувязі з гэтым даходная частка мясцовага бюджэта падарвана, за 1-е паўгоддзе даходы раённага бюджэта выкананы ўсяго на 40 проц.; вялікі недабор даходаў ёсць па сельскіх бюджэтах. Дзякуючы гэтаму ў раёне стварылася сістэматычная затрымка з выплатай зарплаты, асабліва настаўніцтву і рабочым па будаўніцтве; зусім нездавальняюча прафінансаваны мерапрыемствы па народнай гаспадарцы і культуры: за 1-е паўгоддзе—дарожнае будаўніцтва 23,9 проц., лясная гаспадарка 28 проц., жыллёвае будаўніцтва 8,4 проц., асвета 33,4 проц. і інш.

Пры зусім дрэнным выкананні фінплана і даходнай часткі бюджэта дапушчана перарасходванне адміністрацыйна-гаспадарчых расходаў (145 проц. гадавой сумы), парушэнне ставак дзяржнарміравання, выдача значных авансаў і інш. Аб вапіюшчай безгаспадарчасці ў раёне сведчаць факты: адпраўка аўтамашыны для рамонту ў Ленінград і пасылка ў камандыроўку па гэтай справе ў Ленінград раду адказных работнікаў раёна.

Адсутнасць праверкі фінансавай работы ў сельскіх советах, бяздзейнасць рэвізійных камісій і фінсекцый советаў прывялі да разбазарвання дзяржаўных сродкаў радам сельсоветаў Крупскага раёна.

Выходзячы з гэтага Народны камісарыят фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Паставіць перад СНК БССР і ЦК КП(б)Б пытанне аб прыцягненні да адказнасці Кіраўніцтва Крупскага раёна за апартуністычны правал фінплана і даходнай часткі бюджэта, што прывяло да зрыву своечасовай выплаты зарплаты настаўніцтву, капітальнага будаўніцтва і фінансавання іншых мерапрыемстваў, за парушэнне фінансава-бюджэтнай дысцыпліны ў раёне.

2. Прыняць да ведама, што былы загадчык райфа т. Мазанік знят з работы і прыцягнут па судовай адказнасці і што ў адпаведнасці з дырэктывамі СНК і ЦК КП(б)Б запазычанасць у Крупскім раёне па зарплаце настаўніцтву, уключаючы чарговы адпачынак, ліквідавана шляхам выдачы з рэспубліканскіх сродкаў дапамогі Крупскаму раёну.

3. Абавязаць Крупскі райфа пад кіраўніцтвам і пры актыўнай дапамозе раённых арганізацый:

а) у месячны тэрмін праверыць становішча фінансавай работы і фінансава-бюджэтнай дысцыпліны ва усіх сельскіх советах, прыцягнуўшы да адказнасці паасобных старшынь сельсоветаў за невыкананне фінплана, бюджэта, разбазарванне дзяржаўных сродкаў;

б) у далейшым забяспечыць сістэматычнае правядзенне рэвізій фінансавай работы сельсоветаў у адпаведнасці з пастановамі ЦВК і СНК СССР ад 17-VII-33 г. і ЦВК і СНК БССР ад 1-VIII-33 г. з абавязковым абгаварэннем рэзультатаў рэвізій на паседжаннях РВК;

в) безадкладна актывізаваць работу рэвізійных камісій і фінансавых секцый сельсоветаў, забяспечыўшы сістэматычны інструктаж і дапамогу у іх рабоце;

г) безадкладна ліквідаваць дапушчанае парушэнне бюджэтна-фінансавай дысцыпліны у расходванні сродкаў, у прыватнасці парушэнне ставак дзяржнарміравання, устанавіўшы строгі кантроль за правільным і эфектыўным скарыстаннем дзяржаўных сродкаў;

д) забяспечыць безумоўнае выкананне фінплана і даходнай часткі мясцовага бюджэта III і IV кварталаў і ўсяго гадавога задання на аснове правядзення конкурса на лепшы сельсовет па фінансавай рабоце і яго фінансавую секцыю, як масавай гаспадарча-палітычнай кампаніі з уцягненнем шырокай грамадскасці, актыва і ударнікаў фінансавага фронта.

4. Папярэдзіць РВК Крупскага раёна, што калі ў бліжэйшы час не будзе забяспечана ліквідацыя дапушчанага прарыву у выкананні фінплана і даходнай часткі бюджэта і не будуць карэнным чынам зменены адносіны да бюджэтнай работы, Наркамфінам будзе пастаўлена перад СНК БССР пытанне аб скарачэнні бюджэта Крупскага раёна на ўсю суму недабору даходу.

5. Даручыць фінансава-бюджэтнай інспекцыі праверыць у канцы III квартала г. г. выкананне гэтай пастановы.

Народны камісар фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА № 131
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*г. Менск* *15 ліпеня 1934 г.*

Заслухаўшы даклад Начальніка Кіраўніцтва ашчадкас і Дзяржкрэдыта тав. Варшаўскага і даклад загадч. Гомельскай гарашчадкасы т. Шайкевіча, Смалявіцкай тав. Гірко, Терахаўскай райашчадкасы тав. Бондарава, загадчыка сельскай ашчадкасы Смалявіцкага раёна Кулінковіча і рэвізора Магілёўскай райашчадкасы т. Шэпелевіча, Народны камісарыят фінансаў БССР адзначае, што у рабоце сістэмы ашчадкас за першае паўгоддзе ёсць некаторыя дасягненні: павысілася адчотная дысцыпліна райашчадкас, палепшылася становішча бухгальтарскага і статыстычнага учоту; значныя рэзультаты дасягнуты ў галіне барацьбы са злоўжываннямі.

Побач з гэтым у рабоце сістэмы ашчадкас ёсць рад асноўных сур'ёзных недахопаў:

а) адставанне ад усіх рэспублік і большасці абласцей у галіне выканання плана на вёсцы у (I квартале план па пазыцы выканан на вёсцы у размеры 31,3 проц. па укладах „адліў"; ў II квартале план па пазыцы выканан на 83,9 проц., па укладах на 55,6 проц.);

б) невыкананне рэвізійнага плана за першае паўгоддзе (на 90 проц. па райашчадкасах і на 50,3 проц. па нізавых ашчадкасах), Якасць рэвізійнай работы яшчэ нездавальняючая, рэвізійная работа не ўвязваецца з палепшаннем работы ашчадкас у галіне выканання фінплана; нездавальняюча рэалізуюцца рэвізійныя матэрыялы ў цэнтры і на мясцах;

в) высокая цякучасць кадраў у раённых і нізавых ашчадкасах, адрыў ашчадкас ад грамадска-фінансавага актыва, слабы ўдзел у рабоце камсодаў, адсутнічанне сувязі з упаўнаважанымі калгасаў і ўстаноў, што з'яўляецца характэрным для большасці раёнаў, большасць апорных раёнаў сябе не апраўдалі;

г) усе вышэй адзначаныя недахопы прывялі да вялікага прарыву на вёсцы: па пазыцы план за першае паўгоддзе выканан па вёсцы (па пазыцы) на 51,2 проц., па укладах у ашчадкасы на мінус 48,6 тыс. руб.

Выходзячы з адзначанага, Народны камісарыят фінансаў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Абавязаць начальніка кіраўніцтва ашчадкасы і Дзяржкрэдыта тав. Варшаўскага і загадчыкаў райфа і райашчадкас ліквідаваць у III квартале адставанне ашчадкас у галіне выканання фінплана, для чаго неабходна:

а) забяспечыць сістэматычны інструктаж і праверку работы нізавых ашчадкас праз выезды на месцы адказных работнікаў Кіраўніцтва, устанавіўшы, што не менш паловы рабочага часу загадчыкі аддзелаў і іншыя адказныя работнікі павінны знаходзіцца ў раённых і сельскіх ашчадкасах і камсодах;

б) сістэматычна заслухоўваць у Кіраўніцтве, гарфа і райфа даклады адстаючых раённых і сельскіх ашчадкас з прыняццем канкрэтных мер дапамогі і ўздзейнічання;

в) падаць спецыяльны даклад Наркому да 16-VII аб дзейнасці

апорных райашчадкас з прапановамі аб рэзультатах і заменах неапраўдаўшых сябе раёнаў і работнікаў. Рашуча узмацніць работу з упаўнаважанымі і актывам, ударнікамі дзяржкрэдыта;

г) правесці да 1-VIII праверку работы ўпаўнаважаных сельскіх советаў па збору ўзносаў з калгаснікаў у 10 раёнах, прыняўшы рэальныя захады да ўзмацнення іх работы на аснове развароту грамадскай дзейнасці упаўнаважаных сярод калгаснага актыва;

д) не пазней 1-VIII укамплектаваць пасады часовых інспектароў па пазыцы на вёсцы у 10 раёнах. Па асобаму пісьму прапанаваць загадчыкам райфа гэтых раёнаў забяспечыць падбор адпаведных работнікаў на гэтыя пасады;

е) для жывога інструктажа і праверкі работы інспектароў райашчадкасы, арганізаваць групавыя выклікі інспектароў у Кіраўніцтва з такім разлікам, каб на працягу 2 паўгоддзя усе інспектары былі ахвачаны жывым інструктажам;

ж) палепшыць пастаянае абслугоўванне пазыкатрымацеляў і ўкладчыкаў у ашчадкасы на вёсцы;

з) узмацніць работу па дадатковаму ахвату падпіскай на пазыку новых рабочых і служачых, забяспечыўшы своечасовае паступленне узносаў;

і) павесці рашучую барацьбу за культурную ашчадкасу, уцягваючы ў гэту справу работніц і калгасніц.

2. Кіраўніцтву АК і ДК прапусціць усіх работнікаў ашчадкас, у тым ліку і ўпаўнаважаных, праз тэхвучобу. Закончыць тэхвучобу не пазней 1-Х-34 г., пасля чаго правесці па ўсёй сістэме соцтэхэкзамен. Даручыць т. Варшаўскаму забяспечыць належнае правядзенне тэхвучобы і адпусціць райашчадкасам неабходныя для гэтага сродкі.

3. З мэтай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для нізавых ашчадкас, даручыць Кіраўніцтву АК і ДК не пазней 1-Х г. г. арганізаваць курсы на 75 чал. Райфа і райашчадкасам, забяспечыўшы належны падбор курсантаў.

4. Даручыць т. Варшаўскаму і галоўнаму кантралёру-рэвізору тав. Дыманту:

а) забяспечыць поўнае выкананне рэвізійнага плана 1934 г., хутчэйшую рэалізацыю рэвізійных матэрыялаў і неаслабны нагляд за пагашэннем страт і праходжаннем спраў у судова-следчых органах;

б) даручыць кантралёрам-рэвізорам Кіраўніцтва і рэвізорам гар-райашчадкас побач з барацьбой і папярэджаннем злоужыванняў, прымаць у раёнах і сельсоветах актыўны ўдзел у арганізацыйна-масавай рабоце па выкананню фінплана, аказваючы раённым і нізавым ашчадкасам практычную дапамогу.

5. Абавязаць Кіраўніцтва ашчадкас і дзяржкрэдыта арганізаваць на працягу ліпеня м-ца праграцоўку новага палажэння аб прэміяльна-заахвочваючай сістэме аплаты працы ў райашчадкасах, забяспечыўшы укараненне яе ва ўсіх раёнах і рашучае палепшанне на яе аснове якасці работы ашчаднага апарата.

Даручыць тав. Варшаўскаму асабіста сачыць за своечасовым разглядам і правільным зацверджаннем дасылаемых райашчадкасамі разлікаў па прэміравальна-заахвочваючай сістэме аплаты працы.

6. Лічыць неабходным працягванне далейшай разгрузкі ашчадкас ад касава-разліковага абслугоўвання, пакінуўшы ў якасці асноўнага аб'екта абслугоўвання сельскія бюджэты.

Прапанаваць загадчыкам райфа і райашчадкас праверыць на працягу ліпеня м-ца работу ашчадкас, якім перадана касавае абслугоўванне сельскіх бюджэтаў і забяспечыць іх належны інструктаж і падрыхтоўку да надыходзячага паступлення масавых абавязковых плацяжоў.

7. Тав.Варшаўскаму прадставіць адчот аб выкананні гэтай пастановы к 1-му кастрычніку бягучага года.

Канкрэтныя мерапрыемствы па выкананню гэтай пастановы паставіць на абгаварэнне агульнага сходa калектыва работнікаў НКФ і спецбанкаў да 25-га ліпеня.

Па рабоце заслуханых адчотаў райашчадкас, Народны Камісарыят Фінансаў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Прапанаваць загадчыку Гомельскай гар-райашчадкасы тав. Шайкевічу, Смалявіцкай—т. Гірко і Тэрахаўскай—т. Бондараву:

а) забяспечыць правядзенне ў жыццё мерапрыемстваў, вызначаных у дасланым раёнам плане работы на 3 квартал. Канкрэтны план аргмасавай работы зацвердзіць у раённых кіруючых органах не пазней 25-VII г. г.;

б) правесці не пазней 25-VII нарады работнікаў ашчадкас Гомельскага, Смалявіцкага і Тэрахаўскага раёнаў, на якой абгаварыць практычныя мерапрыемствы па перабудове работы нізавых ашчадкас і ўпаўнаважаных. На гэтай-жа нарадзе арганізаваць інструктаж па аперацыйна-тэхнічнай і масавай рабоце.

2. Абавязаць загадчыка Гомельскага гарфа т. Маянца і гарашчадкасы т. Шайкевіча да 1-VIII перагледзець сетку ашчадкас у напрамку найбольш правільнага яе размяшчэння, найлепшага абслугоўвання кліентуры і падняцця яе рэнтабельнасці, звярнуўшы асаблівую увагу на ўзмацненне работы нізавых ашчадкас на вёсцы.

3. Загадчыкам Гомельскай гар-райашчадкасы т. Шайкевічу, Тэрахаўскай райашчадкасы т. Бондараву і Смалявіцкай т. Гірко, на працягу ліпеня м-ца асабіста выехаць ва ўсе нізавыя ашчадкасы для прыняцця на месцы рэальных мер да палепшання работы з актывам і камсодамі і інструктажа ўпаўнаважаных сельскіх саветаў па збору ўзносаў.

4. Загадчыку Тэрахаўскай райашчадкасы т. Бондараву не пазней 20|VII забяспечыць выдзяленне ў Тэрахаўскім раёне ўпаўнаважаных па збору ўзносаў з калгаснікаў і да 25|VII правесці інструкцыйную нараду гэтых упаўнаважаных.

Абавязаць т. Бондарава да 1|VIII замясціць пасаду інспектара райашчадкасы.

5. Абавязаць загадчыкаў Гомельскага гарфа т. Маянца, Тэрахаўскага райфа т. Брагіна і Смалявіцкага райфа т. Рубінчыка, не пазней 20|VII абгаварыць на нарадзе работнікаў райфа і райашчадкасы з удзелам РМК ФБР гэтую пастанову Наркамфіна, арганізаваць яе выкананне і ажыццяўляць асабісты нагляд за яе правядзеннем у жыццё.

6. Даручыць т. Варшаўскаму не пазней 1|IX праверыць у Гомельскім, Тэрахаўскім і Смалявіцкім раёнах выкананне гэтай пастановы і аб выніках зрабіць належнае прадстаўленне Наркамфіну.

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

# ПАСТАНОВА № 123
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*13 ліпеня 1934 г.* *г. Менск*

### Аб рабоце фінорганаў па ўзмацненню фінансавага становішча спажыўкааперацыі

У выкананне пастановы Совета народных камісараў БССР ад 27/VI-34 г. № 1009 аб выніках работы спажыўкааперацыі БССР за 1933 год Народны камісарыят фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усіх загадчыкаў гарфа і райфа і інспектароў дзярждаходаў у адпаведнасці з загадам па Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР ад 27|VI-1934 г. № 136, штодэкадна правяраць выкананне плана па збору паёў па спажыўсістэме, мабілізаваць на гэтую справу ўвесь фінансавы актыў і грамадскасць, дабіваючыся праз адпаведныя раённыя органы актывізацыі работы па збору паёў усяго кааператыўнага апарата і пайнікаў.
2. Прапанаваць загадчыкам гарфа і райфа дэталёва праверыць кожны квартал (па квартальных балансах), выкананне плана па расходах абароту і адм.-кіруючых расходах, пры гэтым не абмяжоўваючыся толькі адной канстантацыяй, выяўляць канкрэтных вінаватых у разбазарванні сродкаў і прыцягваць іх да адказнасці.
3. Пры аналізе квартальных балансаў кааперганізацый устанаўліваць рух усёй дэбіторскай запазычанасці ў параўнанні з пачаткам года, у тым ліку рух унесістэмнай запазычанасці, усебакова высвятляць прычыны яе павялічэння, ужываемыя меры спагнання і шляхам накладання фінансавых рэпрэсій (праз банк) дабівацца яе ліквідацыі.
4. Пры аналізе квартальных балансаў уважліва правяраць спіскі крэдыторскай запазычанасці з тым, каб пратэрмінаваная запазычанасць была-б безадкладна аднесена на накапленні арганізацыі.
5. Праверка выканання гэтай пастановы ўскладаецца на Кіраўніцтва дзярждаходаў і тавараабароту (т. Фельгіна).

Народны Камісар Фінансаў БССР А. ХАЦКЕВІЧ.

---

# ПАСТАНОВА № 132
## Народнага Камісарыята Фінансаў БССР

*16 ліпеня* 1934 *г.* *г. Менск.*

Заслухаўшы даклады аб становішчы страхавой работы ў раёнах: Сіроцінскім, Дзяржынскім, Нараўлянскім, Тураўскім і Бабруйскім, Народны камісарыят фінансаў БССР адзначае, што з гэтых раёнаў больш здавальняюча пастаўлена страхавая работа ў Сіроцінскім і Тураўскім раёнах і асабліва дрэнна ў раёнах: Нараўлянскім і Дзяржынскім, дзе страхавая работа знаходзіцца ў зусім нездавальнаючым становішчы: неналаджана работа раённых і сельскіх страхавых камісій; ліквідацыя страхавых страт недапусціма

зацягваецца, прычым у абследванні страт на месцах, члены раённых страхавых камісій прымаюць удзел толькі ў паасобных выпадках, паседжанні раённых страхавых камісій адбываюцца нерэгулярна, чым парушаюцца ўстаноўленыя СНК СССР тэрміны для аплаты страт, да гэтага часу незабяспечана правільная аплата страхавых страт (дапушчаюцца беспадстаўныя адмовы ў выплаце страхавой узнагароды); нядоімка акладных страхавых плацяжоў не спаганяецца (у Нараўлянскім раёне 30,1 тыс. руб.); заданне па пераацэнцы будынкаў не выканана. У Нараўлянскім раёне пераацэнена 878 двароў, але з прычыны дрэннай работы—пераацэнку трэба перарабіць; зусім аслаблена масавая работа з страхавым актывам, дзякуючы чаму спыніліся паступленні сігналаў аб выпадках драпежніцкай эксплоатацыі жывёлы і безгаспадарчых адносін да аховы застрахаванай маёмасці. Аперацыі па асабістым страхаванні да гэтага часу не разгорнуты, што прывяло да зрыву задання 2-га квартала; не вядзецца работа па добравальным страхаванні рухомай маёмасці.

НКФ адзначае, што раённыя арганізацыі вышэйадзначаных раёнаў не ўдзяляюць увагі страхавой справе адпаведна пастановы ЦК ВКП(б) ад 8|II-34 г. і пастаноў ЦК КП(б)Б і СНК БССР, дзякуючы чаму працягваюцца скрыўленні і ёсць прарывы ў страхавой рабоце.

Выходзячы з адзначанага, Народны камісарыят фінансаў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. За дапушчаныя прарывы ў страхавой рабоце і невыкананне дырэктыў НКФ, не гледзячы на зробленыя папярэджанні з боку Кіраўніцтва Дзяржстраха, ст. страх. інспектару Нараўлянскага райфа т. Бушэлеву—абвясціць суровую вымову з папярэджаннем, што калі на працягу 2-месячнага тэрміну не будуць ліквідаваны прарывы па страхавой рабоце і не будзе забяспечана паспяховае вядзенне страхавой справы, ён будзе знят з работы і прыцягнут да судовай адказнасці.

2. Пра невыкананне Нараўлянскай, Петрыкаўскай, Дубровенскай і Веткаўскай раённымі страхавымі камісіямі ўскладзеных на іх абавязкаў і дапушчэнне валакіты ў справе высвятлення і аплаты страхавых страт—давесці да ведама Совета народных камісараў БССР і прасіць СНК заслухаць у III квартале даклады Петрыкаўскай, Чырвона-Слабодскай і Віцебскай раённых страхавых камісій аб іх рабоце.

3. Прапанаваць загадчыкам райфа, гарфа і інспектарам Дзяржстраха прыняць рашучыя меры да поўнага выяўлення і спагнання страхавой нядоімкі да 1|VIII-34 года.

4. Абавязаць загадчыкаў райфа і інспектароў Дзяржстраха ў тэрміновым парадку скончыць высвятленне становішча застрахаванай маёмасці ў калгасах з тым, каб магчыма было прадаставіць льготы калгасам за развіццё жывёлагадоўлі і процілажарнай аховы маёмасці пры наліччэнні акладных страхавых плацяжоў.

5. У мэтах забеспячэння своечасовай і правільнай ліквідацыі страхавых страт, даручыць загадчыкам райфа далажыць раённым кіруючым арганізацыям аб становішчы справы з ліквідацыяй страхавых страт у раёне, у прыватнасці, аб прынятых мерах да хут-

чэйшага скапчэння раённымі страхавымі камісіямі ліквідацыі страт у пасевах. у першую чаргу—зернавых культур, не пазней 25|VII і аб выкананні паведаміць НКФ.

Даручыць Кіраўніцтву Дзяржстраха падрыхтавацца да суцэльнай праверкі правільнасці і своечасовасці аплаты страт. Абавязаць загадчыкаў райфа зрабіць на працягу ліпеня месяца праверку работы раённых страхавых камісій з пункту гледжання выкрыцця незаконных выплат страт, панесеных у рэзультаце безгаспадарчасці, манеўраў класавага ворага і т. д. і барацьбы супроць незаконных затрымак і неабгрунтаваных адмаўленняў у выплаце страхавой узнагароды. Аб рэзультатах выканання гэтага даручэння паведаміць НКФ БССР не пазней 1-га жніўня г. г.

6. Канстатаваць, што адным з слабых месц да гэтага часу ў рабоце дзяржаўнага страхавання з'яўляецца масавая работа з страхавым актывам. Абавязаць т. Орсіка звярнуць на гэта асаблівую ўвагу. Абавязаць загадчыкаў райфа і інспектароў Дзяржстраха выканаць указанне Кіраўніцтва Дзяржстраха ад 20 чэрвеня 1934 г. аб правядзенні злётаў страхавога актыва да 25 ліпеня 1934 года і забяспечыць арганізацыю страхавых кантрольна-сігнальных пастоў пры калгасах, дзе яны дагэтуль не выдзелены.

Лічыць неабходным у чацвертым квартале склікаць Усебеларускі злёт страхавога актыва, з папярэднім правядзеннем раённых злётаў.

7. Даручыць Кіраўніцтву Дзяржстраха падрыхтаваць матэрыялы аб становішчы страхавых страт і выплаце ўзнагароды па асобных відах страхавання за 1-е паўгоддзе 1934 года і далажыць Наркому не пазней 10 жніўня г.г.

8. Абавязаць усіх загадчыкаў райфа і гарфа і страхавых інспектароў:

а) не дапушчаць скажэнняў пры прыстасаванні правілаў акладнога страхавання і выцякаючых з гэтага беспадстаўных адмаўленняў у выдачы страхавой узнагароды;

б) пільна сачыць за тым, каб законна прылічваючаяся страхавая ўзнагарода за страты, узнікшыя ў выніку стыхійных бядот і няшчасных выпадкаў, невыкліканыя яўнай бесгаспадарчасцю або адсутнасцю аховы грамадскай уласнасці, грубай неасцярогай ці наўмыснымі дзеяннямі з боку страхавацеля (калгаса, калгасніка ці аднаасобніка) аплачваліся ў адпаведных сумах ва ўстаноўленыя законам тэрміны;

в) узмацніць рэволюцыйную, класавую пільнасць і рашуча выкрываць спробы класавага ворага скарыстаць дзяржаўнае страхаванне для сваіх карысных мэт.

9. Даручыць т. Орсіку высніць прычыны няяўкі для даклада ст. інспектара Петрыкаўскага райфа т. Корзана і аб рэзультатах далажыць наркому.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР М. ЕЛІНЕЎСКІ.

---

# ЗМЕСТ

*Стар.*

*Стар.*



---